ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 3 (2582)
ПЯТНІЦА
21
студзеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.





Рыгору Раманавічу ШЫРМУ—80

Мал. І. БЯЛЕЦКАГА.

## КРЫТЫКА. ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

# З ЧАСАМ, З ЖЫЦЦЁМ, З ЛІТАРАТУРАЙ

**ПАШЫРАНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ РЭДКАЛЕГІІ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» З УДЗЕЛАМ СЕКЦЫІ КРЫТЫКІ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА І КІРАЎНІЦТВА САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР. ТЭМА ГАВОРКІ: СТАН І ЗАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ КРЫТЫКІ**

«Крытыка. Дзень сённяшні...» Такая рубрыка з'явілася на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» ў нумары за 17 верасня мінулага года. Тады, пад гэтай рубрыкай, газета змясціла рэдакцыйны артыкул і артыкулы пісьменніка Міколы Лобана («Калі б у мяне запыталі...») і крытыка Якава Герцовіча («Салаўя байкамі не кормяць...»). Гэтымі матэрыяламі рэдакцыя пачала гаворку аб стане і задачах сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўчай навукі.

Напрамак і мэты гэтай размовы былі прадыктаваны рашэннямі XXIV з'езда КПСС і V з'езда савецкіх пісьменнікаў. У справаздачным дакладзе ЦК КПСС на XXIV з'ездзе партыі, дзе былі грунтоўна прааналізаваны шматгранныя працэсы камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне, вызначана шырокае кола неадкладных задач ва ўсіх сферах эканомікі і ідэалогіі, грамадскага жыцця, была ўдзелена ўвага і пытанням развіцця літаратурна-мастацкай крытыкі як актыўнага праваднікa лініі партыі ў галіне літаратуры і мастацтва. З'езд у сваіх дакументах яскрава раскрыў і падкрэсліў значэнне літаратурна-мастацкай крытыкі як важнага сродку забеспячэння далейшых поспехаў савецкай літаратуры і мастацтва. У рэзалюцыі з'езда яшчэ раз была адзначана высокая мера адказнасці савецкай літаратурна-мастацкай крытыкі за ідэйна-палітычную сталасць і мастацкую дасканаласць творчай прадукцыі ва ўсіх відах і жанрах сацыялістычнага мастацтва. Адначасова ў дакументах з'езда падкрэслівалася думка аб неабходнасці рашучага пераадолення ў крытыцы таго, што перашкаджае ёй выступаць як баявому авангарду ў творчым працэсе.

Сучасны ўзровень беларускай крытыкі і літаратуразнаўства вызначаецца бясспрэчнымі дасягненнямі ў распрацоўцы многіх складаных і надзённых пытанняў тэорыі літаратуры, у стварэнні навуковай гісторыі беларускай літаратуры, у кваліфікаванай ацэнцы разнастайных з'яў нашага літаратурнага жыцця. За апошнія гады ў нас надрукавана нямала значных па маштабе і ідэйна-мастацкай дасканаласці прац крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Гэтыя працы пазначаны высокім прафесійным узроўнем, глыбінёй і грунтоўнасцю разгляду многіх важных праблем і пытанняў развіцця сучаснай беларускай літаратуры, яны аказваюць плённы ўплыў на літаратурны працэс.

Аднак (пра гэта гаварылася ўжо ў рэдакцыйным артыкуле, якім адкрывалася дыскусія) стан сучаснай крытыкі і літаратуразнаўства, пры ўсіх бясспрэчных дасягненнях, не можа задаволіць нашу грамадскасць. Наша крытыка не заўсёды аказваецца на вышыні задач і патрабаванняў часу, усё яшчэ не зжыты ў ёй праявы «кампліментарнай» альбо «разноснай» крытыкі, надараюцца выпадкі спрошчанага разгляду формы і зместу мастацкіх твораў, недапушчальныя адступленні ад класавых і сацыяльных крытэрыяў пры ацэнцы літаратурных з'яў.

Вось чаму рэдакцыя палічыла неабходным правесці шырокі абмен думкамі аб стане сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, аб тых задачах, што стаяць перад адным з аператыўных атрадаў партыі ў святле гістарычных рашэнняў XXIV з'езда нашай партыі.

Адкрываючы дыскусію, запрашаючы да ўдзелу ў ёй пісьменнікаў, крытыкаў, чытачоў (бо, як вядома, паляпшэнне становішча ў крытыцы — справа і клопат усёй літаратурнай грамадскасці), рэдакцыя мела на мэце як мага шырэй паказаць ролю і становішча крытыкі ў нашым літаратурным і грамадскім жыцці, яе месца ў літаратурным працэсе, разгледзець шырока і рознабакова, як уплывае наша крытыка на ідэйна-мастацкі ўзровень літаратуры, як асэнсоўвае яна літаратурныя з'явы, як дапамагае нашай літаратуры дасягаць значных мастацкіх адкрыццяў, жыць інтарэсамі часу і грамадства.

У рэдакцыйным артыкуле было акрэслена шырокае кола пытанняў і праблем, якія чакаюць неадкладнага вырашэння нашымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі. У гэтым артыкуле, у прыватнасці, адзначалася: «Быць на вышыні задач часу... Для савецкай літаратурна-мастацкай крытыкі, якая заклікана быць адным з першых памочнікаў партыі ў выхаванні камуністычнай свядомасці, гэта азначае: паслядоўна і цвёрда праводзіць лінію партыі ў галіне мастацкай літаратуры; весці непрымірымую барацьбу з варожай нашаму грамадскаму ладу ідэалогіяй; з марксісцка-ленінскіх пазіцый, ва ўсеўзбраенні ўсіх здабыткаў тэорыі і практыкі крытычнага аналізу, разглядаць літаратурны працэс; у цеснай сувязі з жыццём народа, з надзённымі задачамі камуністычнага будаўніцтва аналізаваць працу савецкіх літаратараў, сцвярджаць і адстойваць высокія крытэрыі ідэйнасці і мастацкасці; плённа змагацца за літаратуру сацыялістычнага рэалізму — літаратуру высокіх ідэалаў, прасякнутую духам ленінскіх прынцыпаў камуністычнай партыйнасці і народнасці, верную праўдзе жыцця і ўзброеную самымі дасканалымі сродкамі пазнання духоўнага свету нашага сучасніка — будаўніка камунізма».

Дыскусія працягвалася амаль чатыры месяцы. Было надрукавана за гэты час каля сарака дыскусійных матэрыялаў. У ёй прынялі ўдзел пісьменнікі, крытыкі, літаратуразнаўцы, чытачы — настаўнікі, бібліятэкары, рабочыя, аматары мастацкага слова. Адначасова з дыскусіяй рэдакцыя звяртала асаблівую ўвагу на праблемы крытыкі і літаратурнага працэсу ў матэрыялах, якія друкаваліся пад іншымі рубрыкамі газеты («Часопіс выйшаў у свет...», «Пісьменнік і кнігі», «Сярод кніг» і г. д.). У прыватнасці, на старонках газеты сістэматычна рэцэнзаваліся крытычныя матэрыялы часопісаў «Полымя», «Беларусь», «Неман», была адзначана размова аб крытыцы ў «Маладосці». Побач з творчымі партрэтамі беларускіх пісьменнікаў друкаваліся і рэцэнзіі на асобныя кнігі. Падрабязна былі разгледжаны пры гэтым новыя кнігі беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў: «Чалавек на світанку» Р. Бярозкіна, «Голас чалавечнасці» В. Каваленкі, «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя», «Беларуская частушка» І. Цішчанкі, «Сучасная беларуская паэзія» (калектыўная праца супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР) і інш. З мэтай азнаямлення чытачоў газеты з працай нашых крытыкаў пад рубрыкай «Над чым працуе...» друкаваліся творчыя партрэты,— газета расказала аб працы і планах У. Калесніка, А. Яскевіча, Д. Бугаёва...

Такім чынам, размова аб крытыцы вялася шырока, шматаспектна, з разлікам на тое, каб закрануць у ёй як мага больш пытанняў і праблем, што датычацца стану і задач сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўства.

Нельга не адзначыць, што гаворка аб крытыцы адбывалася ў час, калі наш народ дзейна распачаў ажыццяўленне праграмы камуністычнага будаўніцтва, акрэсленай рашэннямі XXIV з'езда партыі. Беларускі народ разам з іншымі народамі Савецкай краіны з вялікім працоўным уздымам выконвае планы дзевятай пяцігодкі, дамагаецца вялікіх поспехаў ва ўсіх галінах сваёй эканомікі і культуры. Напружаная стваральная праца савецкіх людзей, што вызначае змест і шуканні нашага мастацтва, падмацоўвалася ростам аўтарытэту савецкай дзяржавы, сіл сацыялізма на міжнароднай арэне, далейшым яднаннем прагрэсіўнага чалавецтва ў барацьбе за мір і бяспеку народаў. Менавіта гэтым застанецца ў гісторыі мінулы год — год 1971. Новы, 1972 год, з'яўляецца годам вялікага свята дружнай сям'і савецкіх народаў — у снежні мы ўрачыста адзначым 50-годдзе ўтварэння СССР. У непарушным Саюзе Рэспублік Савецкіх кожны народ атрымаў найлепшыя, самыя спрыяльныя ўмовы для развіцця сваіх матэрыяльных і духоўных мажлівасцей. Гэта можна сказаць і пра літаратуры нашых братніх савецкіх народаў. Менавіта ў савецкі час з найбольшай плённасцю выпрацоўваліся і развіваліся іх нацыянальныя традыцыі і формы, адбывалася збліжэнне і ўзаемадзеянне не толькі ў знешніх праявах, але і ў самой ідэйна-эстэтычнай аснове іх мастацтва і літаратуры.

Усё гэта, безумоўна, мела самае прамое дачыненне да літаратурнай крытыкі, а таму і да той размовы аб ёй, што вялася на старонках нашага штотыднёвіка. Тое, што ў партыйных рашэннях крытыцы было адведзена такое значнае месца ў ідэйным жыцці нашага грамадства, у развіцці літаратуры і мастацтва, адухоўленых камуністычнымі ідэаламі, непарыўна звязвае нашу літаратурна-мастацкую крытыку з творчай дзейнасцю народа па фармаванні новых грамадскіх адносін, а таксама паўней раскрывае творчую прыроду і грамадзянскія функцыі працы савецкага крытыка.

На гэта арыентавала рэдакцыя ўдзельнікаў дыскусіі, гэта падказвала нам змест і напрамак усёй размовы.

Канечне ж, размова на старонках газеты аб стане і задачах сучаснай крытыкі не магла быць вычарпальнай, не магла ахапіць усё кола тых клопатаў і праблем, што хвалююць зараз нашу грамадскасць. Як справядліва зазначыў К. Крапіва ў размове з нашым карэспандэнтам, некаторыя артыкулы знаходзіліся толькі «на подступе да той сур'ёзнай і важнай гаворкі пра крытыку, на якую нацэльваюць нас рашэнні XXIV партыйнага з'езда». Разам з тым нават беглы позірк на ўсю дыскусію паказвае, што ў яе арбіце аказалася многа пытанняў сучаснага літаратурнага працэсу.




## ДОБРЫЯ СПРАВЫ ШЭФАЎ

Калегія Міністэрства культуры СССР, прэзідыумы ЦК прафсаюза работнікаў культуры і ЦК прафсаюза рабочых і служачых сельскай гаспадаркі і нарыхтовак падвялі вынікі культурна-шэфскай работы творчых арганізацый і калектываў мастацкай самадзейнасці на вёсцы.

Вымпела і грашовай прэміі ўдастоена праўленне Саюза пісьменнікаў БССР.

Дыпломамі ўзнагароджаны 15 калектываў. Сярод іх: тэатры імя Я. Коласа і Брэсцкі імя Ленінскага камсамола Беларусі, Беларуская дзяржаўная філармонія, Магілёўскае культасветвучылішча імя Н. Крупскай, Полацкая дзіцячая музычная школа, абласныя краязнаўчыя музеі ў Брэсце і Магілёве, Гомельскі парк культуры і адпачынку імя А. Луначарскага і Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага ў Мінску, агіттэатр «Полымя» Стаўбцоўскага раённага дома культуры, Віцебскі гарадскі дом культуры, Бабруйскі дом настаўніка, палац культуры прафсаюзаў, клуб будаўнічага трэста № 11 у Гродне, Гомельскі палац культуры чыгуначнікаў.

Калегія Міністэрства культуры БССР, прэзідыумы БРК прафсаюза работнікаў культуры і БРК прафсаюза рабочых і служачых сельскай гаспадаркі і нарыхтовак таксама разгледзелі вынікі культурна-шэфскай работы на вёсцы. Вымпелаў і грашовых прэмій удастоены Гродзенскі абласны драматычны тэатр, Гомельскі палац культуры чыгуначнікаў і Віцебскі палац культуры ўпраўлення бытавых паслуг.

Дыпломы атрымалі 30 калектываў. Сярод іх — Беларускае тэатральнае аб'яднанне, Дзяржаўны народны хор БССР, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, дом культуры Мінскага будаўнічага трэста № 5, Мядзельскі раённы дом культуры, Магілёўскі абласны драматычны тэатр, народны ансамбль песні і танца «Нёман» Гродзенскага гарадскога дома культуры і інш.

## У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ — НАДЗЁННЫЯ ПЫТАННІ

18-га студзеня адбыўся адкрыты сход партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР.

На сходзе выступілі: з дакладам «Задачы камуністаў СП БССР па далейшым паляпшэнні арганізатарскай работы, бытавых і творчых умоў пісьменнікаў» — адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў М. Ткачоў, з садакладамі — дырэктар беларускага аддзялення Літфонда СССР Ф. Міхееў і намеснік сакратара партбюро СП БССР А. Асіпенка.

У спрэчках прынялі ўдзел У. Мяжэвіч, Г. Шыловіч, галоўны ўрач паліклінікі Літфонда Я. Нейфах, У. Юрэвіч, А. Белавусаў, А. Дзеружынскі і іншыя. Былі выказаны слушныя заўвагі, канкрэтныя прапановы па паляпшэнні арганізатарскай работы ва ўсіх звеннях СП БССР і павышэнні ролі прэзідыума і праўлення ў вырашэнні надзённых задач пісьменніцкай арганізацыі. Прапановы камуністаў ляглі ў аснову пастановы партыйнага сходу.

Падсумоўваючы вынікі спрэчак, што разгарнуліся пасля дакладу, сакратар партыйнага бюро СП БССР А. Кулакоўскі падкрэсліў станоўчую ролю рашэнняў сходу ў далейшай рабоце партыйнай арганізацыі.

## РАБОЧАМУ ЮНАЦТВУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*Усесаюзны конкурс на лепшы твор, прысвечаны рабочай моладзі, абвясцілі ЦК ВЛКСМ, Міністэрства культуры СССР, Дзяржаўныя камітэты СССР па прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі, па друку, па тэлебачанні і радыё, а таксама творчыя саюзы краіны.*

*Грашовыя прэміі будуць прысуджаны за лепшы раман, аповесць, кінасцэнарый, скульптуру, тэматычную карціну, серыю малюнкаў, песню, п'есу, радыё- і тэлепастаноўку. Гэтыя творы павінны раскрываць шматграннае жыццё, працу, вучобу навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, выхоўваць у іх высокія маральныя якасці, любоў да Радзімы,*



тацтва катэгорыі, як праўда, метад, пазнанне і г. д., выступаюць у спецыфічным абліччы, без уліку якога сацыяльнасць даследчыка становіцца грубым вульгарным сацыялагізмам. Мы яшчэ і на яго нярэдка грашым, калі казаць праўду. Пра гэта слушна гаварыў у дыскусіі М. Ларчанка: «На жаль, некаторыя нашы крытыкі і літаратуразнаўцы ў сваіх работах мала звяртаюць увагі на эстэтычную каштоўнасць і змястоўнасць твора, разглядаюць тэматыку і праблематыку твораў па-за мастацкай сферай».

Адным словам, падкрэслівае Д. Бугаёў, не дзяліць механічна аналіз мастацкага твора на ідэйны і мастацкі, сацыяльны і эстэтычны, а навучыцца пісаць так, каб самі эстэтычныя ацэнкі былі таксама і заўсёды ідэйныя, заўсёды сацыяльныя — вось наша галоўная задача. Пра гэта ў дыскусіі на старонках «ЛІМа» добра пісаў У. Юрэвіч у сваім грунтоўным артыкуле «Па-партыйнаму, значыць прафесійна».

Але, гаворыць прамоўца, пара, мабыць, пераходзіць да гаворкі пра некаторыя пралікі і слабасці дыскусіі. Думаю, што мала ўвагі яе ўдзельнікі аддавалі важным тэарэтычным праблемам, звязаным, скажам, з сённяшнім разуменнем творчага метаду савецкай літаратуры. Аб нераспрацаваных тэарэтычных аспектах метаду сацыялістычнага рэалізму гаварыў, здаецца, толькі адзін М. Ларчанка. Хацелася б толькі, каб аўтар артыкула выказаў і свой погляд на нявырашаныя праблемы сацыялістычнага рэалізму. Гаворачы пра пэўныя «накладкі» ці «выдаткі» дыскусіі, хацелася б адзначыць, что нам усё яшчэ нестае высокай культуры палемікі. Ну, вось, напрыклад, М. Арочка напісаў для дыскусіі змястоўны артыкул, дзе закрануў важнае пытанне пра грамадзянскасць паэзіі, узняў некаторыя пытанні практычнага значэння. Але побач з гэтым аўтар дапусціў прыкрую агаворку наконт Фета і Блока. Ад агаворак ніхто не гарантаваны. На гэтую агаворку М. Арочкі звярнуў увагу Р. Бярозкін. Здаецца, усё нармальна. Але як жа рэагаваў на гэта М. Арочка? У новым артыкуле ён ужо адмаўляе тое, што сам жа напісаў, а заадно беспадстаўна намякае на тое, што, маўляў, Р. Бярозкіну бракуе грамадзянскасці. Трэба ўсё ж больш разважлівасці, і не толькі М. Арочку, але і ўсім нам.

Не зусім зразумеў я, заўважае дакладчык, чаго М. Арочка ў сваім другім артыкуле дзеліць жыццё на эстэтычна вартае і пазбаўленае такой вартасці (там, дзе ён гаворыць аб «бакавых сцежках», «узбочынах», аб «перыферыі жыцця» і «магістральных шляхах»). Нам патрэбна ў літаратуры ўся паўната жыцця, патрэбна мастацкая праўда ў яе поўным аб'ёме. Не будзем усё ж забываць ленінскія словы пра тое, што «нам патрэбна поўная і праўдзівая інфармацыя». Інфармацыя, якую дае мастацтва, таксама павінна быць як мага больш шырокай, датычыцца ўсіх сфер жыцця. Сур'ёзныя пісьменнікі ўсё гэта добра разумеюць, іх не саб'еш спанталыку ні тэорыямі пра так званага «маленькага чалавека», ні патрабаваннямі выдаваць ідэал за рэчаіснасць.

Недастаткова ўвагі, на думку дакладчыка, было аддадзена ў дыскусіі дзіцячай літаратуры і яе крытыцы. Гаворка пра яе ішла толькі ў выступленнях Р. Ліцвінава, Э. Гурэвіч, Я. Замерфельда. Мала сказана было аб драматургіі (толькі адзін А. Маўзон). Увогуле хацелася б большай скіраванасці дыскусійнай размовы непасрэдна на літаратурна-мастацкі працэс—без гэтага немажліва дасягнуць усебаковасці абмеркавання. У дыскусіі называлася багата імён крытыкаў, але мала разглядалася іх творчасць.

Цікавымі былі выступленні чытачоў, асабліва іх практычнымі прапановамі. Варта падтрымаць і думку А. Пяткевіча пра тое, што нам пара заняцца дыферэнцыраваным вывучэннем чытачоў мастацкіх твораў. Добра, што ў дыскусіі (артыкулы П. Пестрака, А. Кулакоўскага) гаварылася і аб увазе да маладых.

— На старонках «ЛІМа» адбылася,—говорыць у заключэнне Д. Бугаёў,— змястоўная, цікавая і карысная размова аб стане і задачах сучаснай беларускай крытыкі. Яна абуджае творчую думку, стымулюе жаданне працаваць яшчэ лепш, з поўнай аддачай.

Пасля Д. Бугаёва слова ўзяў **Я. Шарахоўскі.** Ён гаварыў пра ход дыскусіі, падзяліўся ўражаннямі ад асобных артыкулаў. У цэлым удалым лічыць ён сам пачатак размовы—рэдакцыйны артыкул і артыкулы М. Лобана і Я. Герцовіча. Аднак прамоўца робіць заўвагу ў адрас М. Лобана за тое, што артыкул яго пазбаўлены канкрэтных фактаў літаратурнага жыцця. Больш спыніўся Я. Шарахоўскі на артыкуле С. Андраюка. Прызнаючы пафас і кірунак артыкула ўвогуле правільнымі, прамоўца спрачаецца з некаторымі выказваннямі крытыка. Я. Шарахоўскі гаворыць: «С. Андраюк шкадуе, што «яшчэ бывае, што крытыкі ігнаруюць задуму пісьменніка, прад'яўляючы яму патрабаванні, несумяшчальныя з творчай самастойнасцю». А як жа вы думалі? Бывае, што не толькі ігнаруюць задуму, але і прынцыпова крытыкуюць яе, калі яна цалкам ці часткова не адпавядае нашай ідэалогіі». Палеміка С. Андраюка з Я. Герцовічам і У. Карпавым, на думку прамоўцы, непераканаўчая. Гаворачы пра артыкул А. Вярцінскага «Крытык—талент асаблівы, або: як быць з прынцыповасцю?», Я. Шарахоўскі падтрымаў думку аўтара артыкула аб тым, што патрэбна паляпшэнне творчай атмасферы ў літаратурным асяроддзі, асабліва адносін да крытыкі. Высока ацэньвае прамоўца артыкул М. Арочкі «Як і сама паэзія»—за канкрэтнасць размовы, за пастаноўку праблемы грамадзянскасці ў паэзіі. У дачыненні да артыкула В. Мысліўца Я. Шарахоўскі выказвае папрок у непаслядоўнасці разважанняў аўтара, асабліва ў спасылках на класікаў. У артыкуле А. Кулакоўскага прамоўца лічыць вельмі істотным тое, што аўтар звярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасць ідэйна-сацыяльнага аналізу твораў. Адным з лепшых выступленняў у дыскусіі прамоўца лічыць артыкул П. Пестрака: «У ім у некаторай меры не абышлося без сімпатый і антыпатый, але каштоўна тое, што аўтар аддаў сур'ёзную ўвагу праблемам грамадзянскасці, ідэйнасці, партыйнасці самой літаратурнай крытыкі». Я. Шарахоўскі звярнуў яшчэ ўвагу і на тое, што крытыкі і чытачы пад час дыскусійнай размовы выказалі шмат каштоўных заўваг і гаварылі больш адкрыта, чым гэта рабілі самі пісьменнікі.

**В. Мыслівец** у сваім выступленні зноў вярнуўся да свайго ж дыскусійнага артыкула, спрабаваў удакладніць і пашырыць асобныя яго палажэнні. Ён выказаў пажаданне, каб крытыка была больш аб'ектыўнай у аналізе літаратурных твораў, палемізаваў з асобнымі выказваннямі ўдзельнікаў дыскусіі.





# З ЧАСАМ, З ЖЫЦЦЁМ, З ЛІТАРАТУРАЙ





— Многіх хібаў у нашым сённяшнім крытычным аналізе,—гаворыць **В. Рагойша,** — магло б не быць, калі б мы лепш ведалі і глыбей вывучалі крытычную спадчыну.

Далей прамоўца звярнуў асаблівую ўвагу на праблему ўзаемаадносін эстэтычнага і сацыяльнага ў літаратуры. На яго думку, у некаторых дыскусійных артыкулах (А. Лойкі і А. Кулакоўскага) чамусьці адраджаецца такі падыход да літаратуры, калі эстэтычнае адрываецца ад сацыяльнага. Гэтая думка, заўважае В. Рагойша, праводзілася і ў выступленні Я. Шарахоўскага. Між тым, размова аб сацыяльнасці ў мастацкім творы абавязкова павінна знаходзіцца ў сферы эстэтычнага аналізу.

З увагай слухалі прысутныя выступленне **І. Мележа.** Вядомы наш празаік падзяліўся сваімі думкамі аб прызначэнні літаратурнай крытыкі, аб тых якасцях, якія неабходны крытыку і даследчыку літаратуры.

— Мяне неяк усхвалявала,— гаварыў ён,— тое пытанне, якое паставіў на пачатку дыскусіі М. Лобан: «Але запытайце ў мяне, якога крытыка я хачу, я закрычу—суб'ектыўнага...» Мяне гэты аспект насцярожвае. Так, крытык сапраўды не павінен быць зашпіленым на ўсе гузікі, але ён павінен імкнуцца да як мага большай аб'ектыўнасці. Гэта бяда, калі крытык вельмі цэніць у сабе свой суб'ектыўны густ. Я ў сваім жыцці наслухаўся багата такіх крытыкаў, і мушу прызнацца, што трэба было мець моцныя ногі, каб ісці далей, рабіць сваю справу.

Больш за ўсё, працягвае І. Мележ, мне хацелася б, каб маім крытыкам быў крытык чулы і ўважлівы, які б па-сапраўднаму цікавіўся мастацкім творам і лёсам аўтара, быў добразычлівым, які б загадзя не лічыў сябе разумнейшым за пісьменніка, не рваўся б у суддзі, а хацеў бы як след памагчы пісьменніку. Я хацеў бы, каб крытык быў маім добрым таварышам, разумным дарадчыкам, бо клопат у нас адзін—зразумець чалавека, час як мага глыбей. Я хацеў бы, каб дыялог крытыка і пісьменніка быў узаемна плённым, а гэта магчыма толькі тады, калі яны кіруюцца аднымі інтарэсамі, імкненнем да праўды, да ісціны. Мабыць, трэба ўдакладніць і тое месца ў артыкуле М. Лобана, дзе ён гаворыць, што хоча бачыць нашу сучасную крытыку абцяжаранай больш складанай функцыяй, чым прымітыўнае рэцэнзаванне. Мне здаецца, што літаратурная крытыка павінна даступна тлумачыць творы літаратуры масаваму чытачу, і гэта вялікая, высакародная задача.

— Якая патрэбна нам крытыка?—працягвае прамоўца.—Аб гэтым добра гаварылася і ў дыскусійных артыкулах, і сёння, у змястоўным дакладзе Д. Бугаёва. Аднак хочацца звярнуць увагу на тое, пра што гаварылася намнога менш. Галоўная бяда нашай крытыкі, як мне думаецца, сёння ў тым, што нямала крытыкаў яшчэ фактычна не хочуць займацца чарнавой работай, часам ухіляюцца ад барацьбы з шэрасцю ў літаратуры. У дыскусіі часам браліся пад абстрэл шэрасць і прымітыў, але мала, недастаткова. Гэта добра, што ў нас знікла нядобрай памяці «прапрацоўчая» крытыка і ўсталяваўся больш спакойны, больш дзелавы тон у гаворцы аб літаратуры. Але стала прыкметна заўважацца, што крытыка цяпер занадта далікатна, нават баязліва гаворыць аб шэрасці, а мы гэтую барацьбу павінны весці непрымірыма, рашуча і паслядоўна.

Шэраг думак адносна дыскусіі і ўвогуле аб стане нашай крытыкі выказаў **М. Мушынскі.** Ён падкрэсліў як станоўчае, што дыскусія не мела характару чарговай кампаніі, а вялася па-дзелавому і была змястоўнай. Хацелася б, гаварыў прамоўца, падтрымліваючы прапанову А. Кулакоўскага, каб размова пра крытыку вялася і ў больш шырокай аўдыторыі, з удзелам шырокага кола чытачоў—рабочых, студэнцтва, настаўнікаў. Падтрымаў М. Мушынскі і думку А. Пяткевіча аб неабходнасці выдання спадчыны нашых класікаў, а таксама і спадчыны нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў (Замоціна, Барычэўскага, Вазнясенскага). Прамоўца выказаў пажаданне, каб крытыка настаянна трымала ў сферы сваёй увагі вучэбна-педагагічную літаратуру.

— У нашай крытыкі, — зазначаў М. Мушынскі, — нямала дасягненняў. Пра гэта слушна гаварылі ўдзельнікі дыскусіі. Але хочацца звярнуць увагу на адну акалічнасць. Не будзем забывацца, што крытыка функцыянуе не толькі ў літаратурных выданнях, але і ў выданнях масавых, у разнастайным перыядычным друку. І вельмі часта, на жаль, тут ужо прафесійны ўзровень крытыкі прыкметна зніжаецца. А ўяўленне пра крытыкаў складваецца ў шырокіх чытачоў менавіта па гэтых выступленнях. І тут нам ёсць над чым задумацца, пра што падбаць.

У заключэнне М. Мушынскі спыніўся на ўзаемаадносінах пісьменніка і крытыка, зазначыўшы, што яны складваюцца нярэдка ненармальна, што некаторыя пісьменнікі, прытым не вельмі высокага палёту, хочуць камандаваць крытыкай, мець яе на паслугах.

Пашырыў абсягі размовы **Я. Семяжон**, які гаварыў аб шырыні дыяпазону нашай крытыкі. Паколькі мы разглядаем нашы нацыянальныя літаратуры не ізалявана, зазначыў прамоўца, а ў агульным рэчышчы савецкай і сусветнай літаратур, то і наша крытыка не павінна абмяжоўваць сябе чыста нацыянальнымі рамкамі, а адгукацца на тыя літаратурныя працэсы і з'явы, што вызначаюць развіццё ўсёй сусветнай літаратуры. У гэтым сэнсе наша крытыка яшчэ вельмі пасіўная, абмежаваная. Мы падчас не маем чаго сказаць на міжнародных форумах літаратараў і перакладчыкаў, бо ў сваім друку не даём адбітку жыцця іншых літаратур. Гэта, дарэчы, звужае і прадмет нашага даследавання з'яў роднай літаратуры.

У якасці прыкладу Я. Семяжон спасылаецца на вопыт літаратараў ГДР, дзе цэлы шэраг крытыкаў сістэматычна спасылаецца на нашу літаратуру, на творы І. Шамякіна, І. Мележа, В. Быкава, Я. Брыля і інш.

— Мне не давялося выступіць у дыскусіі на старонках «ЛІМа», — сказаў на пачатку свайго выступлення **В. Жураўлёў.** — Але калі б я выступаў, дык падтрымаў бы крытыка У. Юрэвіча, які гаварыў пра тое, што «не можа быць прафесійным выступленне крытыка, калі ў ім няма эстэтычных ацэнак, бо яны заўсёды ідэйныя, заўсёды сацыяльныя, заўсёды тэндэнцыйныя». Наша крытыка ўсё яшчэ не можа пахваліцца высокім прафесіяналізмам, бо яшчэ вельмі асцярожна падступае да ідэйна - эстэтычнага асэнсавання як асобных з'яў літаратуры, так і цэлых яе перыядаў. Пад гэтую агульную рысу нельга падводзіць, вядома, працу такіх крытыкаў, як Р. Бярозкін, В. Каваленка, Р. Шкраба, У. Калеснік. Іх не пастaвіш побач з тымі, хто лёгка раз'ядноўвае ў сваіх працах ідэйна-тэматычныя і эстэтычныя грані твора, аспекты сацыяльныя і мастацкія. Сёння ўжо зжыты так званы вульгарны сацыялагізм, але трэба шчыра прызнаць, што далёка не ўсім нам хапае ўмення звязаць пры разглядзе мастацкага твора сацыяльнае і эстэтычнае — паняцці, бясспрэчна, цесна звязаныя і ўзаемаабумоўленыя. А іншы раз нам тут нестае жадання пайсці насустрач цяжкасцям.

Далей прамоўца гаварыў аб неабходнасці крытыку быць добразычлівым, па-гаспадарску дбайна адносіцца да пісьменніка і яго працы, пазбягаць абагулена-катэгарычных ацэначных высноў, незалежна ад таго, пазітыўныя яны ці негатыўныя. У сувязі з гэтым ён спаслаўся на выступленне ў дыскусіі С. Букчына, якому, на думку В. Жураўлёва, у ацэнцы некаторых твораў нестае аргументацыі, і на артыкул У. Федасеенкі, у якім апаненту С. Букчына таксама не зашкодзіла б больш прынцыпова і дыялектычна глядзець на мастацкія з'явы.

На трыбуне — першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **І. Шамякін.** Дзелячыся ўражаннямі і думкамі аб дыскусіі, ён сказаў:

— Увогуле наша дыскусія аб стане і задачах літаратурнай крытыкі мне спадабалася і ўяўляецца з'явай вельмі станоўчай, цікавай і, безумоўна, карыснай для нашага літаратурнага жыцця. Хачу падкрэсліць, што яна падалася мне карыснай і як пісьменніку-практыку. Відаць, кожны з нас прачытваў дыскусійныя матэрыялы, задумваўся над імі, прыходзіў да нейкіх уласных высноў.

Думаю, працягваў І. Шамякін, што самае каштоўнае для нас — гэта правільнае разуменне партыйных задач нашай крытыкі, добра выяўленае ў дыскусіі. Справа іншая, што ў палеміцы былі выказаны і думкі спрэчныя, часам недакладныя, нават няправільныя. Аднак спрачацца трэба тактоўна, неабразліва, без кірунку на знішчэнне свайго апанента.

Хораша выступіў сёння, гаворыць прамоўца, Я. Семяжон. Яго думка аб тым, што нам трэба пазбаўляцца абмежаванасці, пашыраць даляглядзы нашай крытыкі, суадносіць беларускую літаратуру з дасягненнямі сусветнай літаратуры, абсалютна правільная. Дарэчы, тая абмежаванасць нашай крытыкі, на якую звярнуў увагу Я. Семяжон, адбілася ў нейкай ступені і на нашай лімаўскай дыскусіі. Мабыць, было б карысна, калі б у дыскусіі выступіў і нехта збоку—нашы сябры, пісьменнікі і перакладчыкі з братніх рэспублік.

Было таксама адчуванне, што размова на старонках штотыднёвіка ішла крыху як бы ў адрыве ад усяго літаратурнага працэсу.

І. Шамякін спыніўся таксама на спрэчках аб суб'ектыўнасці і аб'ектыўнасці ў крытыцы. Я асабліва салідарны, гаворыць ён, у гэтай спрэчцы з Іванам Паўлавічам Мележам. Крытык, вядома мае права быць суб'ектыўным — у выбары прадмета аналізу, але ён не павінен губляць меры аб'ектыўнасці, трымацца цвёрдых, усталяваных крытэрыяў, што выпрацаваны ўсёй практыкай нашага літаратуразнаўства. Хачу падтрымаць і нават развіць другую думку. Складваецца ўражанне, што крытыкі сёння часам пішуць так, як быццам яны звяртаюцца не да масавага чытача, а толькі да сваіх калег і аўтараў твораў, гавораць ускладнёна. Гэта зніжае ўплывовасць і дзейснасць крытыкі.

У сувязі з прапановай М. Мушынскага аб выданні нашай крытычнай спадчыны І. Шамякін паведаміў, што ў рэспубліцы плануецца выдаць у бліжэйшыя гады гісторыю нашай беларускай крытыкі.

**Я. Шпакоўскі,** узяўшы слова, прадоўжыў размову аб даляглядах нашай крытыкі. Ён выказаў шкадаванне, што на старонках рэспубліканскага друку мала асвятляецца літаратурнае жыццё братніх рэспублік і замежных краін.

— З увагай чытаў матэрыялы лімаўскай дыскусіі, — сказаў **В. Адамчык.** — У іх было выказана нямала заўваг у адрас крытыкі. Мне ж хочацца сказаць некалькі слоў і ў абарону крытыкі. У прыватнасці, выступленні пісьменнікаў у дыскусіі атрымаліся, мне падалося, ніжэйшымі па прафесійным узроўні, чым крытыкаў. Мне здаецца, што мы, беларускія пісьменнікі, асабліва мала прымаем удзел у абмеркаваннях літаратурных спраў. Між тым, кожны сапраўдны пісьменнік носіць у сабе сваю канцэпцыю жыцця і літаратуры і амаль заўсёды выяўляе яе не толькі ў творчасці, але і ў літаратурна - крытычных выступленнях. Цяжка ўявіць Някрасава без яго рэцэнзій у «Современнике» і Твардоўскага без яго артыкулаў і літаратурных нататкаў.

З заключным словам выступіў галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» **Л. Прокша.** Падсумоўваючы вынікі дыскусіі і гаворкі, што адбылася на пасяджэнні, ён сказаў:

— У выступленнях удзельнікаў размовы, у прыватнасці, у артыкулах А. Кулакоўскага і П. Пестрака, у тым, што сказалі сёння з трыбуны Д. Бугаёў, І. Мележ, І. Шамякін, Я. Шарахоўскі, Я. Семяжон, М. Мушынскі і іншыя таварышы, ужо дадзена грунтоўная ацэнка ўсёй дыскусіі. Здаецца, усе пагадзіліся, што наша абмеркаванне крытычных спраў было спакойнае і дзелавое, выказваліся слушныя думкі і ставіліся вельмі цікавыя пытанні. Мы стараліся не пускаць размову на самацёк, уважліва прыслухоўваліся да думкі грамадскасці, улічылі тыя заўвагі і пажаданні, што былі выказаны на справаздачна-выбарчым сходзе пісьменніцкай партыйнай арганізацыі. Нам хацелася даць магчымасць выказацца як мага паўней і шырэй па самых важных пытаннях літаратурнага жыцця пісьменнікам, крытыкам і чытачам. Былі выпадкі, калі аўтары артыкулаў выказвалі спрэчныя думкі. Але мы лічылі, што канструктыўная, плённая спрэчка будзе таксама на карысць справе. Рэдакцыя вымагала ад аўтараў толькі аднаго: каб гаворка была па сутнасці, каб яна не збівалася на прыватнасці, каб у палеміцы не дапускалася знявага і абраза.

Наша размова, працягваў Л. Прокша, не магла, вядома, ахапіць і вырашыць усіх праблем і пытанняў сучаснай крытыкі і ўсяго літаратурнага жыцця. Таму, знімаючы нашу дыскусійную рубрыку «Крытыка. Дзень сённяшні», рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» не ставіць апошнюю кропку. Гаворка пра крытыку і адначасова пра ўсю нашу літаратуру будзе весціся і надалей, у праблемных артыкулах і аглядах. Безумоўна, яе працягам будуць і пісьменніцкія пленумы, прысвечаныя пытанням крытыкі, — усесаюзны і рэспубліканскі, якія маюць адбыцца неўзабаве.

Л. Прокша ад імя рэдкалегіі падзякаваў удзельнікаў дыскусіі і ўсіх тых, хто прыняў удзел у яе абмеркаванні.

У НАШАЙ КРЫТЫКІ, як гэта засведчыла дыскусія на старонках «ЛІМа», шмат праблем і нявырашаных пытанняў. Сярод многіх важных і неадкладных мер, якія неабходна прыняць для паляпшэння спраў у нашым крытычным цэху, трэба ў першую чаргу адзначыць патрэбу ўзняць тэарэтычную ўзброенасць нашай крытыкі, без чаго яна не зможа паспяхова ажыццяўляць сваю баявую ідэалагічную функцыю ў той складанай і вострай бітве ідэй, якая назіраецца ў сучасным свеце. Тэарэтычная грунтоўнасць крытычнага аналізу, дакладнасць і правільнасць ацэнак, уменне раскрыць дыялектыку складаных прычынных сувязяў у сучасным літаратурным працэсе ў пастаяннай суаднесенасці з нашай рэчаіснасцю, з патрабаваннямі часу, — гэта магчыма толькі тады, калі наша літаратурная крытыка будзе трывала абапірацца на марксісцка-ленінскую метадалогію ў цэлым, на карэнныя прынцыпы рэвалюцыйнай філасофіі, ідэалогіі сацыялістычнага гуманізму. У гэтым заключана гарантыя ад небяспекі густаўшчыны, суб'ектывізму, групавой прадузятасці ў крытычных ацэнках.

Заклік партыі актывізаваць дзейнасць літаратурна-мастацкай крытыкі мае на мэце выклікаць да жыцця велізарныя магчымасці крытычнага асэнсавання літаратурнага працэсу, умацаваць сувязі нашай крытыкі з жыццём, з літаратурай, з часам.

«Мы за ўважлівыя адносіны да творчых пошукаў, за поўнае раскрыццё індывідуальнасці і талентаў, за разнастайнасць і багацце форм і стыляў, што выпрацоўваюцца на аснове метаду сацыялістычнага рэалізму», — гаварылася ў Справаздачным дакладзе ЦК КПСС на гістарычным XXIV з'ездзе партыі. У клопатах партыі аб росквіце нашай літаратуры і аб нашай крытыцы яскрава акрэсліваюцца напрамкі і сэнс працы савецкіх літаратараў.

# КІНААБСЛУГОЎВАННЕ: СТАН І ЗАДАЧЫ

*З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАРАДЫ РАБОТНІКАЎ КІНАФІКАЦЫІ І КІНАПРАКАТУ*

У МІНСКУ, у Доме мастацтваў, адбылася нарада работнікаў кінафікацыі і кінапракату. З дакладам «Вынікі работы кінасеткі і кінапракату за 1971 год і задачы па далейшым паляпшэнні кінаабслугоўвання насельніцтва ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі П. Бляўскі.

Разумеючы сваю ролю ў працэсе выхавання новага чалавека, сказаў ён, беларускія кінафікатары, работнікі кінасеткі і пракату ў першым годзе новай пяцігодкі вырашылі адказную задачу поўнай кінафікацыі рэспублікі, стацыяніравання сеткі, абсталявання яе сучаснымі тэхнічнымі сродкамі, павышэння культуры абслугоўвання.

Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, якія выкліканы капітальным рамонтам некаторых буйных кінатэатраў Бабруйска, Маладзечна, Навапалацка, план першага года пяцігодкі па кінапаказу выкананы. Кінасетка рэспублікі павялічылася на 235 кінаўстановак, закончана будаўніцтва дзевяці кінатэатраў, сярод якіх — шырокафарматны кінатэатр «Сучаснік» на 800 месц у Мінску, шырокаэкранныя кінатэатры па 400 месц у Дзяржынску, Кіраўску, Шаркаўшчыне, Валожыне, у гарадскіх пасёлках Васілевічы і Узда. Ідуць наладачныя работы ў шырокафарматным віцебскім кінатэатры «Беларусь».

Разам з тым, як адзначыў дакладчык, у кінапракаце рэспублікі ёсць шмат недахопаў. Многія кінатэатры рэспублікі з нездавальняючымі паказчыкамі закончылі мінулы год. Прычына—нізкая якасць паказу фільмаў, слабая работа з кінагледачом. Пагэтаму галоўная ўвага будзе звернута на якасць работы (не на рост кінасеткі, як гэта было ў ранейшыя гады), якасць кінапаказу, далейшае ўдасканаленне абслугоўвання гледачоў, асабліва на сельскіх кінаўстаноўках.

У спрэчках па дакладзе першай выступіла начальнік Мінскага гарадскога ўпраўлення кінафікацыі Н. Яблакава.

— Кінатэатры беларускай сталіцы, — сказала яна, — праводзяць вялікую работу па прапагандзе рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Сумесна з партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі прадпрыемстваў і ўстаноў сістэматычна наладжваюцца тэматычныя паказы лепшых мастацкіх і хранікальна-дакументальных фільмаў, якія расказваюць аб поспехах савецкага народа ў камуністычным будаўніцтве. Асабліва добра арганізавалі гэтыя мерапрыемствы ў кінатэатрах «Камсамолец», «Маяк», «Ракета» і іншых. Тут шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя формы работы з гледачамі. Створаны кіналекторыі, кінаклубы, распаўсюджваюцца абанементы, анкеты. Вялікая ўвага ўдзяляецца юным аматарам кіно.

Цікавым было выступленне дырэктара Мядзельскага галаўнога кінатэатра Б. Паўлоўскага.

— У нашым калектыве, — паведаміў ён, — працуе 20 ударнікаў і адна брыгада камуністычнай працы, 8 выдатнікаў кінематаграфіі СССР, 12 чалавек узнагароджаны Ленінскім юбілейным медалем. Працуючы над выкананнем даведзеных нам планаў, мы праяўляем вялікі клопат аб кадрах кінамеханікаў. Стала традыцыяй наладжваць урачыстасці ў гонар пераможцаў спаборніцтва, напрыклад, у гонар кінамеханікаў В. Барановіча і В. Богана. З выдатнымі поспехамі іх горача віншавалі прадстаўнікі райкома партыі і райвыканкома, калегі па рабоце. Цёплыя адносіны да кожнага кінафікатара праяўляюцца ў многім. Скажам, здарылася так, што ў чалавека згарэў дом. І яму на дапамогу прыйшоў увесь калектыў. Аб зладжанасці, згуртаванасці, працавітасці нашага калектыву сведчыць і такі факт. Мы сваімі сіламі пабудавалі адміністрацыйнае памяшканне і кінарамонтную майстэрню. Сярод кінамеханікаў знайшліся цесляры, муляры, маляры. У бліжэйшы час пабудуем гараж на 5 аўтамашын.

Дырэктар Мінскага кінатэатра «Піянер» Ф. Люцко пазнаёміла з тым, якая работа праводзіцца ў кінаабслугоўванні школьнікаў у сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна і ўтварэння СССР. Аб рабоце кінафікатараў Гродзеншчыны расказаў начальнік абласнога ўпраўлення М. Сіпач.

Некаторыя работнікі кінафікацыі і кінапракату крытыкавалі асобныя кінастужкі студыі «Беларусьфільм», якія зроблены нецікава, не адлюстроўваюць вялікай праўды жыцця.

У рабоце рэспубліканскай нарады работнікаў кінафікацыі і кінапракату прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцэлеў, намеснік міністра асветы БССР Р. Сярноў, намеснік начальніка Упраўлення кінафікацыі і кінапракату камітэта па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР М. Філатаў.





**Злева — вучні 8 класа В. Палушкіна і Ю. Раўнуць (па-дэ-дэ з балета «Полымя Парыжа»); справа — вучаніца 2 класа Рыта Панкова і вучань 3 класа Ігар Моўчан («Беларуская полька»).**

Фота С. ГРАХОЎСКАГА.

# ТАНЦУЮЦЬ ЮНЫЯ

УСЕСАЮЗНЫ АГЛЯД ХАРЭАГРАФІЧНЫХ ВУЧЫЛІШЧ

У КІЕВЕ адбыўся Усесаюзны агляд харэаграфічных вучылішч. У сталіцу Украіны прыехалі прадстаўнікі 19 вучылішч саюзных рэспублік, у тым ліку Ленінграда і Масквы. Настаўнікі і вучні імкнуліся раскрыць багатыя творчыя магчымасці рэзерву савецкага балета, як бы зазірнуць у заўтра гэтага мастацтва.

У першыя два дні была паказана вытворчая практыка вучылішч, г. зн. канцэртная праграма.

Беларускае вучылішча выступала трэцім па парадку ў першы дзень. Паказ нашай праграмы прайшоў на прафесійным узроўні і быў па вартасці ацэнены журы агляду. Былі прадстаўлены наступныя нумары нашай праграмы: «Пічыката» Дэліба ў выкананні вучаніц 3 класа Іны Душкевіч і Люсі Аляксеевай, «Пралеска» Чайкоўскага ў выкананні вучаніцы 2 класса Рыты Панковай і вучня 3 класа Ігара Моўчана, «Варыяцыя» Шастаковіча ў выкананні вучняў 7 і 8 класаў, варыяцыя з балета «Казка пра мёртвую царэўну» на музыку Лядава ў выкананні вучаніцы 8 класа Валянціны Палушкінай, эцюд на музыку Смольскага ў выкананні вучня 8 класа Барыса Дзьячэнкі, іспанскі танец «Малагуэнья» Альбеніса ў выкананні вучаніцы 6 класа Вольгі Намаканавай і вучня 8 класа Уладзіміра Крупскага, «Мазурка» Шапэна ў выкананні вучаніцы 6 класа Наталлі Катомінай і па-дэ-дэ з балета «Полымя Парыжа» Асаф'ева ў выкананні вучняў 8 класа Валянціны Палушкінай і Юзэфа Раўкуця.

Лепшымі нашымі нумарамі журы адзначыла «Пічыката», «Пралеску», «Беларускую польку», «Варыяцыю» Шастаковіча, «Дударыкі», «Мазурку» Шапэна, «Варыяцыю» Лядава. Для заключнага канцэрта нашаму вучылішчу былі прадстаўлены два месцы і права самім выбіраць нумары.

На жаль, дэлегацыя нашага вучылішча не прадставіла ні аднаго беларускага нацыянальнага нумара на заключны канцэрт, у той час як іншыя рэспублікі паказалі свае нацыянальныя танцы.

Побач з канцэртнай праграмай, у наступныя дні ўсе рэспублікі паказвалі адзін са сваіх класаў, г. зн. працэс навучання. Наша вучылішча прадстаўляў 3 клас дзяўчынак педагога Р. Сінёвай. Клас быў паказаны на добрым прафесійным узроўні і заслужыў высокую ацэнку журы.

**Н. МАЛАХАВА,**
**выкладчыца Мінскага харэаграфічнага вучылішча.**

Максім ТАНК

# І СЁННЯ, ЯК ЗАЎСЁДЫ...

ПРЫЗНАЦЦА, аж не верыцца, што амаль ужо сорак год мінула з таго часу, калі мне выпала шчасце сустрэцца з сённяшнім юбілярам — Рыгорам Раманавічам Шырмам, якога мы ўсе называлі проста дзядзька Рыгор. Помню, ён быў тады шмат маладзейшы і чупрына яго яшчэ не была прыцярушана снегам яго васьмідзесяці гадоў. Праўда, слова «дзядзька» гаворыць не толькі аб тым, што той, да каго яно адносіцца, — чалавек старэйшы. У гэтым слове ёсць і пашана, і любоў, і нейкая своеасаблівая блізкасць да чалавека. Сярод выдатных людзей нашага часу я знаў толькі яшчэ дваіх, да каго мы так звярталіся: гэта былі — Купала і Колас.

Я, можа, і не адважыўся б ісці да дзядзькі Рыгора са сваімі першымі вершамі, але мне выпала зручная місія, з якой накіраваў мяне да яго адзін з кіраўнікоў КПЗБ — «Паўлік» — Самуіл Малько. Трэба было дамовіцца аб справах, звязаных з выданнем газеты народнага фронту «Наша воля». Гэта першая наша размова закончылася тым, што я прачытаў яму некалькі сваіх вершаў. Потым кожны раз, калі мы сустракаліся, гутарка пачыналася з таго: што я прынёс новага? Чытаў я яму свае вершы і вершы сяброў, атрыманыя з падполля, з Лукішак, Вронак, Гродна і іншых астрогаў. Мяне заўсёды захапляла і захапляе ў дзядзькі Рыгора яго надзвычай добразычлівае стаўленне да моладзі, яго беражлівасць да ўсяго таленавітага, самабытнага, народнага.

І хоць не літаратура, а песня была яго стыхіяй, яго спецыяльнасцю, але больш удумлівага і празорлівага крытыка, як ён, мне не прыходзілася сустракаць.

Сёння таму, хто мала знаёмы з жыццём у даваеннай Польшчы, цяжка ўявіць у якіх складаных і суровых умовах жылося і працавалася тым, каму дарагой была справа свайго народа, яго культура, тым, хто быў звязаны з рэвалюцыйнай дзейнасцю Кампартыі Заходняй Беларусі. Сярод гэтых людзей Рыгор Раманавіч Шырма займае сваё асаблівае месца. Як настаўнік, які многім талентам даў пуцёўку ў жыццё, як вопытны арганізатар, які аб'ездзіў усе самыя далёкія куткі Заходняй Беларусі, наладжваючы работу шматлікіх харавых і тэатральных калектываў, бібліятэк і гурткоў, Таварыства Беларускай школы, як нястомны збіральнік песенных скарбаў нашага народа і выдатны прапагандыст яго культуры, які па-майстэрску валодае і чароўнай палачкай дырыжора, і баявым пяром публіцыста.

І зразумела, чаму ў доме дзядзькі Рыгора ніколі не зачыняліся дзверы ад шматлікіх гасцей і наведвальнікаў. Заўсёды да позняй ночы на ўзбярэжжы шумлівай Віленкі свяціліся закратаваныя вокны ў яго нейкім сярэдневечным сутарэнні — у гэтым неафіцыйным цэнтры культуры і асветы былой Заходняй Беларусі. Праўда, за святлом гэтых вокнаў пільна сачылі і нядрэмлючыя панскія паслугачы. Яны не раз пры дапамозе арыштаў, допытаў, вобыскаў, цэнзуры намагаліся спыніць дзейнасць дзядзькі Рыгора.

Незабыўны дзень 17 верасня быў гістарычным парогам, за якім пачалося новае жыццё нашага з'яднанага ў адзінай братняй савецкай сям'і беларускага народа.

Наступныя гады — і асабліва пасляваенныя — былі надзвычай плённымі ў жыцці Рыгора Раманавіча. Сёння мы ўсе яго ведаем як стваральніка нашай цудоўнай Дзяржаўнай харавой капэлы, як збіральніка і аўтара шматлікіх зборнікаў народных песень і мелодый, як вядомага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Які вялікі шлях пройдзен ім ад беднай бацькоўскай хаты на Пружаншчыне да высокага ганаровага звання народнага артыста СССР, дэпутата Вярхоўнага Савета сваёй рэспублікі. Мы ўсе, хто ведае дзядзьку Рыгора, даўно ўгаворваем яго пра ўсё гэта напісаць. Абяцае. Нядаўна я з сябрамі наведаў яго. Прыселі за яго гасцінным сталом. Разгаварыліся. Прыгадалі былое.

— Дык як жа з успамінамі?

— Няма калі за іх брацца, — адказаў заклапочана гаспадар.

І тут жа паказаў нам рукапіс вершаў загінуўшага на фронце паэта Сяргея Крыўца.

— Трэба выдаць. Сабраў я цікавую спадчыну гэтага таленавітага самародка. Напісаў да яго зборніка прадмову. Паслухайце.

Мы слухалі яго ўсхваляваны глыбокі голас, і я з радасцю думаў: гэта ж той самы, па-маладому няўрымслівы наш дзядзька Рыгор, які заўсёды жыве клопатамі другіх, жыве справамі свайго народа. Ён і сёння, як некалі мне і многім маім таварышам, памагае свайму загінуўшаму другу і паэту знайсці дарогу да сэрцаў людскіх...

Слаўнае 80-годдзе Рыгор Раманавіч сустракае ў росквіце сваіх творчых сіл, у дружбе з песняй, з якой шмат правандраваў ён па ўсёй нашай савецкай краіне, і па шырокім свеце.

Віншуючы яго са слаўным юбілеем, хочацца пажадаць яму самага большага шчасця, якое можа быць для мастака — здзяйснення яго новых задум і планаў!



Такіх здымкаў — сотні, бо Рыгор Раманавіч Шырма заўсёды жаданы госць, дарадчык і сябра шматлікіх калектываў мастацкай самадзейнасці. Яго добрае слова і падтрымка дадаюць веры ў свае сілы, нараджаюць жаданне працаваць яшчэ больш натхнёна...

Фота Ул. КРУКА.

Анатоль БАГАТЫРОЎ

# ЁН ІДЗЕ ЗА ПЕСНЯЙ...

*Зорка Венера ўзышла над зямлёю,*
*Светлыя згадкі з сабой прывяла...*

Успамінаючы гэтую чароўную песню, міжволі прыгадваеш і яе лепшага выканаўца — Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу БССР. «Зорка Венера», як і дзесяткі іншых беларускіх мелодый, гучыць дзякуючы ёй у рэспубліцы, краіне, за мяжой.

Гаварыць пра нашу дзяржаўную капэлу — гэта значыць гаварыць і пра яе стваральніка народнага артыста СССР Рыгора Раманавіча Шырму. Буйнаму харавому дырыжору, фалькларысту, грамадскаму дзеячу сёння споўнілася 80 гадоў.

Бадай, няма ў Беларусі такога кутка, дзе б ні пабываў Шырма, ні сустракаўся са слухачамі як выканаўца, лектар, проста шчыры цікавы субяседнік. Нездарма гэты сапраўды народны мастак быў удастоены ганаровага звання — народны артыст Савецкага Саюза. Народным лічылі, называлі з самага пачатку дзейнасці гэтага няўрымслівага шукальніка. І ён па праве носіць вышэйшыя ўрадавыя ўзнагароды — ордэны Леніна і Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Жыццёвы шлях Рыгора Раманавіча нялёгкі і няпросты, але поўны радасці першаадкрыццяў, пошукаў і знаходак жамчужын беларускай музыкі. Хоць дзяцінства яго праходзіла ў глухой вёсачцы Шакуны на Брэстчыне, у беднай сялянскай сям'і, душа яго ўжо тады цягнулася да кніг, навукі. Пераадольваючы ўсе цяжкасці — галечу, голад, цемру, — ён імкнуўся да ведаў, але не для таго, каб пры дапамозе іх стаць над народам, а каб яшчэ цясней зблізіцца з ім, служыць яму самааддана і верна. І ён становіцца настаўнікам, выкладае ў Віленскай беларускай гімназіі. Працягвае збіраць народныя песні, да якіх з юнацтва прыкіпеў душой. Аднойчы яму пашчасціла пачуць выдатны хор Архангельскага. Ён зрабіў на юнака такое ўражанне, што Рыгор Раманавіч з таго часу вырашыў прысвяціць жыццё харавому мастацтву.

Жыццё вымагала займацца не толькі спевамі, музыкай, але і палітыкай. Р. Шырма ў Вільні вёў вялікую прапагандысцкую работу, накіраваную супраць белапольскіх каланізатараў, выступаў з ваяўнічымі артыкуламі ў прагрэсіўным друку, зведаў турэмнае зняволенне.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй у Рыгора Раманавіча пачаўся новы перыяд жыцця і творчай дзейнасці. Урад даручае яму стварыць Ансамбль песні і танца, які потым будзе рэарганізаваны ў Дзяржаўны хор БССР, а яшчэ пазней — у Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу. Пад кіраўніцтвам Р. Шырмы капэла прайшла слаўны, вялікі шлях. У яе рэпертуары — кантаты, хоры, сюіты, паэмы, песні розных краін і народаў. І ў першую чаргу — беларускія народныя.

Рыгор Раманавіч Шырма — удумлівы, таленавіты дырыжор, волі і майстэрству якога падуладны самыя складаныя творы з поліфанічнай структурай. Вялікую ўвагу надаваў ён яснай дакладнай дыкцыі спевакоў і чысціні інтанацыі. У свой час Аляксандр Фадзееў пісаў Рыгору Раманавічу: «Сіла Вашага калектыву ў свабодным шырокім дыяпазоне яго творчых магчымасцей. На Танееве і Чайкоўскім, на Гуно і Гендэлі Ваш цудоўны хор з асаблівым майстэрствам раскрывае гэтыя магчымасці. Мне яшчэ раз хочацца сказаць, што ў Вашай асобе наша краіна можа ганарыцца адным з лепшых настаўнікаў і выхавацеляў, захавальнікаў і прадаўжальнікаў таго самага лепшага, што можа даць харавое мастацтва».

«Музычныя вобразы ўсіх твораў нязменна атрымліваюць у хоры глыбокае і пранікнёнае раскрыццё. Прыгажосць гучання і філіграннная апрацоўка прыносяць слухачам вялікую асалоду. На дзіва роўнае гучанне і чысціня інтанацый, спяванне эмацыянальнае, сакавітае; выкананне вызначаецца адточанасцю дэталяў і дакладнасцю формы», — такую характарыстыку даў капэле Вано Мурадэлі.

Многія кампазітары лічылі і лічаць за гонар, калі іх твор упершыню гучыць у выкананні капэлы Шырмы. Ёй, дарэчы, належыць адно з першых месц у краіне па колькасці запісаў на грамафонныя пласцінкі.

Хоць праца кіраўніка буйнага мастацкага калектыву адбірала шмат энергіі і часу, Рыгор Раманавіч займаўся яшчэ збіраннем, апрацоўкай і выданнем беларускіх народных песень. Тры зборнікі яго запісаў ужо выйшлі з друку, падрыхтаваны чацвёрты. Рыгор Раманавіч склаў таксама два зборнікі беларускіх народных песень у апрацоўцы розных кампазітараў.

— Я ішоў за песняю, — гаворыць Рыгор Раманавіч, — і, дзякуючы ёй, многа ў жыцці ўбачыў, з сотнямі людзей пазнаёміўся, тысячы кіламетраў прайшоў і здзіўляцца не развучыўся...

І сапраўды, толькі маладому душой па плячы такое вялікае і разнастайнае кола дзейнасці. Апошнія пяць гадоў Р. Шырма — старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, член сакратарыята Саюза кампазітараў СССР. Ён пастаянны член журы розных конкурсаў мастацкай самадзейнасці і прафесійных калектываў. Рыгор Раманавіч нястомна адшуквае і выводзіць у жыццё новыя і новыя таленты.

Любіць народ Рыгора Раманавіча, верыць яму і ва ўдзячнасць за бескарыслівае служэнне людзям неаднаразова выбіраў сваім дэпутатам у Вярхоўны Савет БССР.

Рыгор Раманавіч — сам па сабе такая яркая асоба, у ім ёсць нешта такое характэрнае, прывабнае, што і сам ён робіцца аб'ектам творчага натхнення паэтаў і кінематаграфістаў, скульптараў і жывапісцаў.

«Песню нельга разглядаць, як музейны экспанат альбо шукаць у ёй толькі экзотыку. Песня — гэта душа народа, яго жывая гісторыя. Песня — гэта зброя, якая нясе народу вялікія ідэі». Гэтыя шырмаўскія словы — крэда славутага музыканта. У іх — яго талент, яго жыццё.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## СЭРЦА ДЗЯДЗЬКІ РЫГОРА

Колькі птахаў пявучых у родных лясах,
Колькі нот непаўторных у іх галасах,
Колькі тонаў, адценняў, ладоў, пераборач,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Колькі ў краі бацькоўскім празрыстых крыніц,
Колькі іх, між пагоркаў, булькочазвініц,
Бегучы ручайкамі да сіняга мора,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Колькі ў небе вясновым за тысячы год
Па-над роднай зямлёй прагрымела грымот,
Абдараючы радасцю долы і горы,—
Столькі песень у сэрцы у дзядзькі Рыгора.

Дык якім жа павінен ён волатам быць,
Каб у сэрцы адным гэтак многа ўмясціць!
Ой, не дзіва, скажу вам, не дзіва, не дзіва,
Калі песняю песень у сэрцы—Радзіма!



*Гэтыя вусы*
*Ведаюць усе беларусы*

Я. КУРБЕКА.

Сяброўскі шарж Л. БАРАЗНЫ



# СЕЙБІТ І ЗМАГАР

Арсень ЛІС

*ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА*

У 30-я ГАДЫ, калі ноч самай зласеснай рэакцыі, якую калі-небудзь перажывала чалавецтва, апускалася над Еўропай, на антыфашысцкіх міжнародных форумах побач з імем Эрнста Тэльмана называлі імя Браніслава Тарашкевіча. Яно гучала сімвалам нязломнай барацьбы за інтарэсы працоўных. На той час таленавіты трыбун-арганізатар мас Тарашкевіч ужо каля пяці год правёў за кратамі розных астрогаў буржуазнай Польшчы: Лукішак, Вронак, Грудзёнца, Плоцка, Гродзенскай турмы. Пяць разоў яго судзілі і перасуджвалі. Кампартыя Польшчы і КПЗБ разгарнулі кампанію за вызваленне Тарашкевіча. Імя Тарашкевіча з пашанай і ўдзячнасцю вымаўлялася ў кожнай глухой вёсцы і мястэчку Заходняй Беларусі.

Людзі ведалі мужнае праўдзівае слова яго, якое ён бясстрашна кідаў з сеймавай трыбуны ў Варшаве, куды быў пасланы заходнебеларускімі сялянамі і рабочымі адстойваць іх інтарэсы. Запаветныя мары—думы свае адкрывалі, чулі ў яго прамовах на грамадаўскіх пасольскіх мітынгах у гарадах і мястэчках, куды прыходзіў раіцца з людзьмі і згуртоўваць іх.

У рэвалюцыйны, нацыянальна-вызваленчы рух ён прыйшоў не адразу. Але ўжо юнаком свядома выбіраў шлях, які вёў да служэння народу. З блаславення невялічкай на пачатку веку грамады беларускай інтэлігенцыі, што ад рэвалюцыі 1905 г. пачала руціцца пра грамадскае ўсведамленне свайго народа, пра яго будучыню, Тарашкевіч паступае ў Пецярбургскі універсітэт. Паступае з акрэсленай мэтай—на кафедры прафесара Шахматава спецыялізавацца па беларускай філалогіі.

Грунтоўныя веды па класічнай філалогіі, якія даваў універсітэт, навуковае паглыбленне ў духоўную скарбніцу свайго народа дапамаглі маладому Тарашкевічу здзейсніць першую працу. Грамадскі сэнс яе адразу, можа, і не мог быць ацэнены да канца, але практычны аспект выявіўся хутка і пераканаўча. «Беларуская граматыка» Тарашкевіча выйшла асобным выданнем у 1918 годзе і была першай закончанай навуковай апрацоўкай законаў развіцця сучаснай мовы беларускага народа, яе правапісам. Надзённасць выхаду кнігі ў свет у сувязі з тым, што беларускі народ дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі атрымаў дзяржаўнасць і шырокія магчымасці для развіцця ўсіх творчых сіл сваіх, у тым ліку нацыянальнай культуры, была незвычайнай. З'яўленне кнігі набывала гістарычную значнасць.

Тое, што аўтар гэтага выдання вельмі чуйна паставіўся да народнай гаворкі, ішоў ад асноў яе і добра разумеў, што мова не бывае абыякавая да становішча свайго творцы і носьбіта, надало працы яго непераходны сэнс і змест. Пасля заканчэння універсітэта Тарашкевіча пакінулі пры кафедры рускай мовы рыхтавацца да прафесарскага звання. У 1917—18 навучальным годзе ён яшчэ працуе выкладчыкам універсітэта і адначасова загадвае культурна-асветным аддзелам Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР. Але неўзабаве маладога вучонага ўладна паклікала да сябе Беларусь. Трапіўшы ў Мінск у той час, калі яшчэ не вырашана было пытанне аб утварэнні БССР, Тарашкевіч не здолеў ва ўсім добра разабрацца. У перыяд існавання Літбела рупліва бярэцца за адкрыццё школ для народа. З зайздроснай энергіяй змагаецца таксама за працоўную школу ў бутафорнай Сярэдняй Літве, са згоды Пілсудскага часова створанай генералам Жалігоўскім дзеля прыкрыцця экспансіяніскай палітыкі польскай буржуазіі. Аднак хутка ўмовы рэвалюцыйнага і вызваленчага руху, што разгортваліся ў Заходняй Беларусі, прыроджаны тэмперамент байца штурхнулі Тарашкевіча ў самы вір барацьбы. З восені 1922 года 30-гадовы Тарашкевіч узначальвае групу паслоў (дэпутатаў), выбраных заходнебеларускімі сялянамі ў сейм Польскай рэспублікі. Ужо нават першае парламенцкае выступленне кіраўніка Беларускага пасольскага клуба вызначалася палемічным запалам, дасканалым аналізам палітычнага і эканамічнага становішча мас, якія ён прадстаўляў. У сваіх выступленнях на пленарных пасяджэннях і ў розных камісіях Тарашкевіч горача і таленавіта адстойвае правы працоўнага народа, выкрывае з фактамі ў руках гаспадаранне буржуазнай адміністрацыі на землях Заходняй Беларусі і Украіны: патаптанне грамадзянскіх і чалавечых правоў, палітыку нішчэння эканамічных асноў жыцця працоўных мас.

Асаблівую вастрыню набывала барацьба вакол законапраектаў зямельнай рэформы. У зацятым змаганні, якое, нягледзячы на малыя рэальныя вынікі, мела вялікі палітычны рэзананс, Тарашкевіч адыгрываў вядучую ролю.

«Я лічу гэты закон ганебным, правакацыйным, — гаварыў Тарашкевіч адносна закона аб асадніцтве і парцэляцыі.—Усё ашуканства гэтай зямельнай рэформы беларускія і ўкраінскія народы ўжо зразумелі, і спадзяюся, што польскі народ таксама зразумее і дасць належным чынам адпор».

Па якіх бы пытаннях ні выступаў беларускі дэпутат, ці з выпадку справаздачы прэм'ера Грабскага, ці адносна даверу ўраду, ці пры абмеркаванні так званых моўных законаў, яго слова падкупляла глыбінёй сацыяльна-палітычнага аналізу, пранікнёнасцю, жывасцю размоўных інтанацый, літаратурна-вобразнай формай. Пры разглядзе зямельнага пытання і моўных законаў, якія тычыліся правоў нацыянальных меншасцяў у Польшчы, Тарашкевіч, выклікаючы шалёнае абурэнне правых, спасылаўся на вырашэнне аграрнага і нацыянальнага пытанняў у СССР і, у прыватнасці, у Савецкай Беларусі.

Калі прадстаўнікам працоўных не ўдалося праз сейм вырваць у магнатаў і памешчыкаў зямлю, неабходную, як паветра, шматмільённай сялянскай масе, то ў ходзе парламенцкай барацьбы па аграрным і нацыянальным пытаннях яны здолелі павысіць палітычную свядомасць мас, падняць іх на барацьбу. За кароткі час у Заходняй Беларусі ўзнікла стотысячная беларуская сялянска-работніцкая грамада. Душой гэтай масава-народнай арганізацыі, яе заснавальнікам быў Браніслаў Тарашкевіч. Грамада з дапамогай Кампартыі, якая працавала глыбока ў падполлі, садзейнічала надзвычайнай радыкалізацыі шырокіх мас. Сеймавую трыбуну, пасольскія мітынгі Тарашкевіч і яго паплечнікі скарыстоўвалі цяпер пераважна дзеля прапагандысцкіх мэт, палітычнай асветы і арыентацыі працоўных.

**ВОДГУКІ, АДКАЗЫ**

## А ДЗЕ—«СКАРБЫ РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ»?

**Пад такой назвай у нашай газеце 17 снежня 1971 года было надрукавана пісьмо чытача С. Язерскага, у якім выказвалася прапанова аб выданні новай кніжнай серыі «Скарбы роднай літаратуры». Рэдакцыя атрымала адказ з Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку. Намеснік старшыні камітэта А. Барушка паведаміў:**

**«З мэтай папулярызацыі здабыткаў беларускай літаратуры выдавецтва «Беларусь» ужо некалькі гадоў выпускае серыі «Беларускі раман», «Бібліятэка беларускай паэзіі», «Бібліятэка беларускай прозы», «Бібліятэка беларускай драматургіі». Выданне гэтых серый разлічана на шмат гадоў, у іх уключаюцца лепшыя творы беларускай літаратуры. Таму выпускаць яшчэ серыю «Скарбы роднай літаратуры» рана, яна будзе дубліраваць нядаўна пачатыя серыі.**

**Што да канкрэтных прапаноў, то «Прадмовы і пасляслоўі» Францішка Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет у 1969 годзе, «Песня пра зубра» М. Гусоўскага запланавана выдавецтвам «Беларусь» да выпуску ў 1972 годзе. Творы М. Багдановіча ў апошнія гады выдаваліся тройчы (двухтомнік, зборнік «Маладзік» і зборнік у серыі «Школьная бібліятэка»), выдаваліся таксама творы Ф. Багушэвіча і В. Дуніна-Марцінкевіча. Значная ўвага надаецца выданню твораў Я. Купалы і Я. Коласа. Так, запланавана выпусціць у 1972 годзе больш за 10 кніг Я. Купалы і Я. Коласа, у тым ліку будзе пачата выданне шматтомных збораў твораў народных паэтаў. Распачнецца таксама выданне збору твораў Кузьмы Чорнага.**

**Выдавецтвы рэспублікі будуць і надалей працягваць работу па выпуску класічных твораў беларускай літаратуры».**

# ПА ЗАКОНАХ ПЕРШАСНА-ЧЫСТЫХ

**[Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.]**

**сама прымаюць самае эфектыўнае палажэнне, «пасоўваюцца» нават да пярэдняга плана. У нацюрморце Івана Занковіча бульба «рассыпалася» так, што мастак выпісвае кожную асобна. Лілія Трахалёва ў пейзажы «Хутары» размяшчае палявыя кветкі на цёмным фоне шыпулькі. Падобны прыём выкарыстоўвае яна і ў другой карціне, дзе белыя, добра напісаныя кветкі, разгорнутае лісце выразна чытаюцца на блакітным небе.**

Можна адзначыць характэрную асаблівасць адносін самадзейнага мастака да дэталі. Калі яна ўжо выбрана, то павінна быць пададзена з ўсёй шчырасцю. Гэта датычыць і галоўных і другарадных дэталей. Для народнага майстра ўсё становіцца важным, раўнацэнным у святле чыста фармальных задач. У гарадскім пейзажы «Віцебск. 1914 год» Ісаака Зельдзіна старанна выпісваюцца балконныя рашоткі, архітэктурныя дэталі дома, брукаваная вуліца з акуратнымі масткамі цераз вадасцёк. Гэтак жа робяць Лілія Трахалёва, Феадосій Дудо, Пётр Іваноў і іншыя мастакі. Яны як бы запрашаюць гледача палюбавацца кожнай травінкай, нават пялёсткамі кветак, тычынкамі, фактурай зямлі, пушыстымі воблакамі.

Міжволі ўзнікае думка, што мастак-аматар менавіта праз знешняе, праз дэталь, цярплівую апрацоўку кожнага яе элемента нібы хоча ўбачыць, адчуць душу прадмета, яго ўнутраную сутнасць.

**НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД, народны майстар строга прытрымліваецца натуры. Калі гэта бэз у роспісах Лідзіі Доўгер, то старанна выпісваюцца менавіта лісты бэзу, кветкі. Выразна падае макі ў адным з роспісаў Г. Сакірка.**

**Самадзейныя мастакі да перадачы знешніх прыкмет прыроды ставяцца яшчэ больш прыхільна. У Ліліі Трахалёвай ілюзорная бярозавая кара, якой пакрыты вуллі ў лесе, мох на пні і іншыя дэталі.**

**Аднак нягледзячы на такі фатаграфізм, падыход да дэталі ў самадзейнага мастака нельга назваць натуралістычным. Мы тут маем справу з зусім іншым творчым метадам адлюстравання свету. Адчуваецца спроба народнага майстра данесці да гледача «свой ідэал», сваё разуменне прыгажосці. У яго свая «стратэгія» ў гэтым пытанні. Не кожнае лыка ў радок! Ідзе вельмі старанны адбор дэталяў. У працэсе работы над карцінай нешта прыбіраецца, нешта перасоўваецца на іншае, на думку мастака, больш падыходзячае месца, а нешта і прыўносіцца. Дабаўлены, напрыклад, астравок з чаротам у карціне Альберта Лыншы «Рэчка», а ў пейзажы Феадосія Дудо «Вясёлка» з'явілася на пярэднім плане дарога, якой няма ў натуры. Гэтым прыёмам ствараецца пэўны рытмічны лад карціны, уносіцца ў яе дыханне жыцця.**

**Можа дзякуючы такому адбору не ўзнікае пачуцця некамунікабельнасці асобна выпісаных прадметаў. Мастакі ствараюць з іх нешта накшталт нацюрмортаў. У адной карціне іх можа быць некалькі. Яны ўзаемазвязаны. Гэта часткі адзінай каларыстычнай структуры, пры тым найбольш актыўныя ў вобразным ладзе. Шматлікія і быццам разрозненыя прадметы з іх падрабязнай характарыстыкай набываюць цэльнасць, сэнс. Гэта «аксіёма» таксама не прыдумана самадзейнымі мастакамі. Падобнае сэнсавае чляненне характэрна і для беларускіх народных роспісаў.**

САМАДЗЕЙНЫЯ МАСТАКІ зусім гэтак жа, як і народныя майстры, карыстаюцца чыстым колерам. Яны не змешваюць фарбы. Фон адыгрывае толькі пасіўную ролю, дапамагаючы прачытаць асноўнае адлюстраванне. Часта не прымаюцца пад увагу рэфлексы, хоць многія ведаюць пра іх. І колер, пазбаўлены рэфлексаў, валёра, становіцца першасна-чыстым. Гэта ўзмацняе дэкаратыўнасць, ствараецца каляровы кантраст.

Як бачым, жывапісныя задачы ў народнага мастака даволі складаныя, яго нельга зразумець і судзіць па законах прафесійнага майстэрства. Напрыклад, каляровае абагульненне само па сабе адсутнічае, ствараецца ўражанне, што для майстра важней перадаць нязменны першасны колер прадмета, чым прыглушыць яркія тоны. У нацюрморце Паўла Баранава «вырываюцца» ярка-чырвоныя памідоры, у Ліліі Трахалёвай кожны яблык вызначаецца сваім колерам, уносячы дысананс, хоць агульная кампаноўка прадметаў задавальняючая.

**Аднолькавая выпісанасць дэталяў не азначае для самадзейнага мастака іх сэнсавай раўназначнасці. Кожнаму прадмету даецца канкрэтная сэнсавая характарыстыка. Гэта дасягаецца іншы раз дэфармацыяй, рознамаштабнасцю, зменай натуральнага становішча прадметаў у асяроддзі і г. д. Мастак старанна выстройвае кампазіцыю (часта — штучна). Падобнае стаўленне да натуры і ў народнай творчасці. Напрыклад, у адным з дываноў Анастасіі Нікanчук (Брэсцкая вобласць) пчала і птушка аднолькавыя па памеры. Гіганцка павялічаная пчала сімвалізуе значнасць.**

**Для самадзейнага мастака фатаграфічна выпісаныя дэталі — проста тэхнічны прыём раскрыцця сутнасці асобнага прадмета, але пры кампаноўцы карціны, імкнучыся адлюстраваць нейкую сваю думку, настрой, ён набывае пэўную незалежнасць ад натуры.**

Цікавыя ў гэтым плане некаторыя асаблівасці кампазіцыйных прыёмаў, да якіх іншы раз звяртаюцца мастакі.

Рытмы, чарГаванні, сіметрыя (у большасці выпадкаў люстраная) складаюць аснову тыповых матываў геаметрычнага і расліннага арнаменту — у насценных дыванах, ручным узорным ткацтве, роспісах куфраў і ганчарных вырабаў.

Сіметрыя ж найбольш часта сустракаецца і ў кампазіцыях самадзейных жывапісцаў. Аднак яна тут трансфармуецца, прыкметна толькі цяга да сіметрычнага размяшчэння адносна восевай лініі. Адсюль пэўны парадак размяшчэння прадметаў на плоскасці, свабодная трактоўка іх формы, контуру. Гэта не надуманы прыём, а найбольш даступны спосаб, які дазваляе мастаку-аматару ўраўнаважыць кампазіцыю, стварыць адпаведную структуру.

У такіх работах зрокавы цэнтр часта не супадае з сэнсавым, ён проста абазначаны прадметам, які не мае самастойнага значэння. У карціне «Рэч-

# БЛЕФ ГЕЛЕНА

НА СТАРОНКАХ сусветнага друку зноў з'явілася імя нацысцкага важака, які бясследна згінуў 1 мая 1945 года. Многія гады ён быў галоўнай фігурай сотняў газетных артыкулаў, перадач па радыё і тэлебачанні. Гаворка ідзе пра Марціна Бормана, аднаго з найбліжэйшых супрацоўнікаў Гітлера. Пасля памятнага авіяпадарожжа Геса ў Англію Борман стаў намеснікам нацысцкага фюрэра і начальнікам канцылярыі фашысцкай партыі.

Ажывіў успаміны пра Бормана не абы хто, а Рэйнгард Гелен, генерал у адстаўцы, былы шэф бундэснахрыхтэндзінста—бонскай разведкі. Гелен напісаў мемуары, якія цяпер, з яго згоды, публікуюцца ў газеце «Вельт» у выдавецтве Шпрынгера — газеце, апазіцыйнай да ўрада Бранта. У сваіх мемуарах Гелен, натуральна, піша і пра Бормана, нават у адным з раздзелаў сцвярджае, што Марцін Борман «быў савецкім агентам і пасля другой сусветнай вайны ў строгай тайне працаваў у Савецкім Саюзе спецыялістам па нямецкіх пытаннях аж да сваёй смерці ў 1969 годзе».

Сусветны друк прыняў сцвярджэнне былога гітлераўскага генерала з немалымі сумненнямі. Газеты палічылі патрэбным без якіх-небудзь каментарыяў зазначыць, што кіраўнік нацысцкай антысавецкай шпіёнскай службы пасля разгрому гітлераўскага рэйха адразу ж паступіў на службу да амерыканцаў, а пазней, у час канцлерства Адэнаўэра, стаў шэфам заснаванай тады бонскай разведкі.

## НАТАТКА «НЬЮ-ЙОРК ТАЙМС»

Калі ў заходнегерманскіх, англійскіх і амерыканскіх газетах з'явілася новая версія гісторыі Бормана, «Нью-Йорк таймс» змясціла цікавую нататку: «Асобы з блізкага акружэння генерала Гелена, якія добра ведаюць склад яго мыслення, заявілі, што генерал, якому 60 гадоў, выступае супраць таго, каб яго погляды былі выкарыстаны ва ўнутраных заходнегерманскіх супярэчнасцях, і таму адыходзіць на задні план» (Гелен адмовіўся асабіста весці перагаворы наконт правоў на замежныя выданні сваёй кнігі і даручыў гэта дырэктару мюнхенскага выдавецтва «Хазэ і Кёлер» Фолькеру Гансену. Бацька Гансена ў час другой сусветнай вайны быў афіцэрам шпіёнскай службы Гелена). «Ці гэта было сапраўды жаданнем Гелена? Навейшыя паведамленні наконт рукапісу мемуараў сведчаць зусім пра іншае. У сваіх мемуарах Гелен, апрача апісанняў шпіёнскіх аперацый часоў другой сусветнай і халоднай вайны, падрабязна характарызуе палітычныя і ваенныя мэты Савецкага Саюза на бліжэйшыя дваццаць год і ў той жа час патрабуе тэрмінова павысіць колькасць узброеных сіл Захаду, каб затармазіць пашырэнне камуністычных уплываў. Разважанні Гелена ўказваюць на тое, што праціўнікі ўсходняй палітыкі заходнегерманскага канцлера з удзячнасцю прымуць мемуары Гелена, бо Брант сваёй палітыкай хоча выправіць заходнегерманскія адносіны да савецкага блока»,— піша «Нью-Йорк таймс».

Вось гэта і галоўнае: шэф шпіёнскай службы Гітлера, Далеса і Адэнаўэра, у палітычных поглядах якога ніхто ніколі не сумняваўся, цяпер спрабуе даць у рукі праціўнікам урада Бранта неабходную зброю.

## ПАКАЗАННІ СВЕДКАЎ

Нават у заходніх газетах, далёка не прыхільных да Савецкага Саюза, верагоднасць «сенсацыі» выклікала пэўныя сумненні. Яны перш за ўсё пачалі рэканструяваць гісторыю знікнення Бормана на падставе паказанняў сведкаў. Адным з іх быў былы нацысцкі статсакратар Науман. Ён сказаў, што 1 мая 1945 года ў 10 гадзін вечара Борман пакінуў сад бункера Гітлера ў суправаджэнні правадыра нацысцкай моладзі Артура Аксмана, шафёра Гітлера Кемпкі, урача Гітлера Штумпфегера і яго, Наумана, і накіраваўся да Відэндамерскага моста над Шпрэе недалёка ад чыгуначнай станцыі Фрыдрыхштрасэ. На другім баку моста ўжо стаялі савецкія танкі. Борман спадзяваўся з дапамогай некалькіх нямецкіх танкаў і бронемашын паспрабаваць прабіцца.

Кемпка паказаў: «Нямецкія танкі рушылі па мосце за галаўным. Борман ішоў за ім. У танк трапіў снарад. Пачуўся выбух. На тым месцы, дзе быў Борман, шугала полымя».

Аксман заявіў наступнае: «Набіты боепрыпасамі «тыгр» узарваўся. Страшэнны выбух кінуў мяне на зямлю. Інстынктыўна я шукаў ратунку ў варонцы ад снарада. Там ужо былі: Борман, доктар Штумпфегер, доктар Науман і іншыя. Усе былі цэлыя і здаровыя. Мы разважалі, як выбрацца з Берліна... Борман і доктар Штумпфегер адлучыліся ад нашай групы і накіраваліся на Інвалідэнштрасэ. Мы пайшлі следам. На Інвалідэнштрасэ чулася моцная перастрэлка. Мы ўжо амаль перайшлі мост, калі ўбачылі на зямлі двух чалавек. Гэта былі Марцін Борман і доктар Штумпфегер. Яны ляжалі наўзнак, раскінуўшы рукі і ногі. Я дакрануўся да Бормана. Ён не варушыўся, не дыхаў. Я не бачыў на ім ні ран, ні крыві. Страляніна працягвалася, мы павінны былі спяшацца...»

У 1961 годзе адзін чалавек, які жыў у ваколіцах Інсбрука, гаварыў, што восенню 1945 года дапамагаў Марціну Борману ўцячы з лагера ваеннапалонных у Шлезвіг-Гальштэйне ў Аўстрыю, у манастыр каля Вінтшгаў у Паўднёвым Ціролі. Петэр Франц Кубаінскі (пазней яго арыштавалі ў Інсбруку) яшчэ ў пачатку другой палавіны саракавых гадоў прызнаваўся, што 15 снежня 1945 года пераправіў Марціна Бормана з баварскага гарадка Рэйхенгаля ў італьянскі Мерана і нібыта бачыў, як Борман, пераапрануты ў езуіцкага манаха, з фальшывым пашпартам выехаў з Генуі ў Аргенціну.

У адным паказанні, якое потым правяралі заходнегерманскія ўлады, можна вычытаць цікавыя звесткі пра адну характэрную сустрэчу. Немка, якая асабіста ведала Бормана, у 1956 годзе наведала яго дачку ў Сан-Паула. У аўтобусе яна заўважыла былога супрацоўніка Гітлера і па-нямецку звярнулася да яго: «Пан Борман? Гэта вы?» Борман падхапіўся, кінуўся да дзвярэй і выскачыў, не чакаючы, пакуль аўтобус спыніцца.

У 1964 годзе ў Вене паказвалі фатаграфію групы нямецкіх эмігрантаў, зробленую паблізу аргенцінска-чылійскай граніцы. На здымку пажылы чалавек з жорсткім выразам твару падымае руку, каб засланіцца ад фатографа, але яму ўдалося прыкрыць толькі правае вуха. У чалавеку гэтым угадвалі Марціна Бормана.

## ГЕЛЕН НІЧЫМ НЕ ДАПАМАГАЎ

Карэспандэнт «Інтэрнэйшнл геральд трыбюн» знайшоў кіраўніка франкфурцкай пракуратуры — гэтая афіцыйная заходнегерманская ўстанова выдала ордэр на арышт Бормана і паабяцала 100 000 марак таму, хто ўкажа на след Бормана альбо арыштуе яго.

«Мы ўжо атрымалі звесткі,—сказаў кіраўнік пракуратуры,—паводле якіх Борман пабываў амаль ва ўсіх дзяржавах свету. Аднак найбольшая частка інфармацыі ўказвае на Лацінскую Амерыку».

Ён дадаў яшчэ, што ў час дзесяцігадовага следства па справе Бормана генерал Гелен не даваў следчым ніякіх звестак.

І хоць пакуль што ніхто не можа атрымаць 100 000 марак за адшуканне Марціна Бормана, усё ж такая сума знайшла свайго гаспадара — іменна столькі выплаціла гамбургская «Вельт» генералу Гелену за публікацыю яго мемуараў. Пра будучыя мемуары мы ведаем яшчэ, што згаданае выдавецтва «Хазэ і Кёлер» мяркуе прадаваць кнігу ў 460 старонак за 28 заходнегерманскіх марак. Відаць, фірма закупіла ў генерала Гелена і правы на замежныя выданні.

Што датычыцца галоўнай фігуры кнігі Гелена, дык кожнаму зразумела, што так званае «выкрыццё» генерала-шпіёна з'яўляецца своеасаблівай бомбай супраць палітыкі Бранта і звычайнай антысавецкай правакацыяй. Уся кар'ера Марціна Бормана, які нарадзіўся ў 1900 годзе ў Гальберштаце, сведчыць пра тое, што ён з'яўляўся прадстаўніком крайніх правых. Яму было 18 год, калі ён у складзе «свабоднай групы» Росбаха выступіў супраць Веймарскай рэспублікі як афіцэр фашысцкіх банд. Органы правасуддзя асуджаюць яго за ўдзел у звычайным забойстве (разглядалася справа аб забойстве настаўніка Кадава). Пазней Гітлер узнагародзіў яго «ордэнам крыві». З 1928 года Борман працаваў у апараце нацысцкай партыі і ў многіх гістарычных працах характарызуецца як цень Гітлера.

## ЛІСТЫ БОРМАНА

У 1954 годзе ў Лондане Х'ю Б. Трэвар-Ропер апублікаваў прыватную карэспандэнцыю Бормана. З гэтых лістоў перад намі паўстае неміласэрны, жорсткі, далёкі ад любога людскога пачуцця чалавек, якому ўсё высакароднае было чужым. Даследаванне Йоахіма Ц. Фэста «Борман—шэры кардынал» звяртае ўвагу на перапіску Бормана з жонкай (Герда Борман, якая памерла ў 1946 годзе, была дачкой Вальтэра Буха—«прававога» апостала нацысцкай партыі). У першай частцы перапіскі Борман піша жонцы, што завёў новую сяброўку—у лістах ён называе яе М. (Сёння мы ўжо ведаем, што гэта была акторка Маня Берэнс).

Борман: «Ты, відаць, думала, што М.—нейкая надзвычайная дзяўчына. Не, маё золатка, яна не надзвычайная, гэта я—хлапец, варты захаплення... Насуперак яе адпору я авалодаў ёю. Ты ведаеш сілу маёй волі. М. не магла доўга супраціўляцца. У адносінах да мяне М. мае вялікія дакоры сумлення. Гэта, вядома, велізарнае глупства».

Адказ Герды Борман: «Зрабі так, каб М. у гэтым годзе нарадзіла дзіця. У наступным годзе павінна стаць цяжарнай я, каб ты заўсёды меў жонку, якая ведала б сваё месца. Нарэшце, мы пазбіраем усіх дзяцей і будзем жыць разам у доме на беразе возера. Тая жонка, якая не будзе цяжарнай, зможа выехаць з табой у Оберзальцбург і Берлін».

І такое пісалася ў студзені 1944 года! У нататках 1942 года (іх цытуе Джозэф Вулф у сваёй кнізе «Трэці рэйх і яго мысліцелі») Борман піша: «Славяне павінны працаваць толькі на нас. Калі нам яны ўжо не будуць патрэбны, мы прымусім іх паздыхаць... Размнажэнне славян непажадана. Яны павінны ўжываць сродкі супраць цяжарнасці альбо рабіць прымусовыя аборты — чым больш, тым лепш. Адукацыя ў іх выпадку—рэч небяспечная... З харчавання яны атрымаюць толькі самае неабходнае. Мы—паны, прывілеі—для нас».

## АБСАЛЮТНЫ КАНТРОЛЬ

Альберт Цолер у сваёй кнізе «Гітлер у прыватным жыцці», якая выйшла ў 1949 годзе ў Дзюсельдорфе, падрабязна высвятляе сапраўдную ролю Бормана і яго ўплыў. Ён канстатуе, што Борман са сваім і так велізарным уплывам пасля палёту Геса ў Англію надзвычай моцна павысіў свае правы гаварыць па ўсіх справах нацысцкай партыі і дзяржавы. Ён асабіста кантраляваў усе дакументы і лісты, якія ішлі да Гітлера, ён вырашаў, хто можа трапіць у канцылярыю фюрэра. «Вакол Гітлера ён пабудаваў сапраўдную кітайскую сцяну, за якую пускалі толькі таго, каму даваў дазвол Борман».

## ГІТЛЕР ПРА БОРМАНА

Сам Гітлер часта называў Бормана сваім найвыдатнейшым супрацоўнікам. Генрых Гофман («прыдворны» фатограф нацыстаў), які выдаў у 1955 годзе ў Лондане кнігу «Гітлер быў маім прыяцелем», зазначыў, што гэты «прыяцель», калі яму гаварылі нядобрае пра Бормана, заўважаў: «Каб выйграць вайну, мне патрэбен Борман. Хто супраць Бормана, той супраць мяне».

Цолер у згаданай кнізе прыводзіць гутарку, у якой Гітлер так ахарактарызаваў уласцівасці аднаго са сваіх найлепшых людзей: «Планы Бормана апрацаваны так старанна, што я магу сказаць толькі «не» альбо «так». З ім за дзесяць мінут я разглядаю такое мноства папер, на якія з іншым патрэбна было б некалькі гадзін. Калі я скажу яму: «Нагадайце мне праз паўгода тое ці іншае», то магу быць упэўнены, што так і будзе».

Многія гістарычныя працы і ўспаміны пра часы нацызму справядліва канстатуюць, што Марцін Борман быў самым неміласэрным і бязлітасным чалавекам.

Заходнія газеты і часопісы цяпер прыгадваюць чытачам мемуараў Гелена такі істотны факт: нюрнбергскі ваенны трыбунал, які ў свой час судзіў галоўных ваенных злачынцаў, іменна па патрабаванні савецкага галоўнага абвінаваўцы вынес прысуд смерці праз павешанне адсутнаму Марціну Борману.

## ГЭТА НЕ ГІСТОРЫЯ

Што да савецкай пазіцыі, то пасля апублікавання фантастычнай бязглуздзіцы карэспандэнт ТАСС Юрый Карнілаў канстатаваў: «Невыпадкова, што вядучая газета канцэрна Шпрынгера, якая адлюстроўвае погляды заходнегерманскіх мілітарысцкіх колаў —«Вельт»—купіла правы на публікацыю нататкаў Гелена. Гэтыя колы сёння, калі ў Еўропе прыкладваюцца такія намаганні для разрадкі напружання, не саромеюцца выкарыстаць любыя сродкі, каб перашкодзіць гэтаму».

Журналіст Маеўскі падкрэсліў: «Гэта зусім не гістарычнае даследаванне. Мемуары шэфа шпіянажу ўяўляюць сабой сумесь атруты, а іх мэта вельмі празрыстая: гэта спроба ўбіць нож у спіну ўсходняй палітыцы заходнегерманскага ўрада».

Генерал Рэйнгард Гелен, якога Гітлер прызначыў кіраўніком антысавецкай шпіёнскай службы «Фрэмдэ Геерэ Ост», быў вядомы тым, што яго людзі ўмелі фальсіфікаваць дакументы, шыкоўна, з правакацыйнымі мэтамі, «прыгладжвалі» факты, а цяпер спрабуюць з такімі трукамі прыйсці на дапамогу сваім палітычным прыяцелям— заходнегерманскім крайнім правым. Хаця мемуары яшчэ не выйшлі асобнай кнігай, водгукі на іх пераканаўча сведчаць: такая дапамога мала чаго варта.

Са славацкай пераклаў А. МАЖЭЙКА.

---

заключэнні першага руска-японскага дагавору.

Па рэкамендацыі Пуцяціна Гашкевіча прызначылі консулам у Хакадатэ, куды ён прыехаў у лістападзе 1858 г. Вяртаючыся з далёкіх плаванняў, рускія маракі заўсёды знаходзілі ў збудаваным Я. Гашкевічам консульстве на сопцы Рамісёміцё (зараз Манамаці) свой «дом», рабілі разам з супрацоўнікамі консульства маскарады, пікнікі, ставілі спектаклі.

Дзякуючы намаганням нашага земляка, японцы добразычліва адносіліся да рускіх. Жонка ўрача консульства Альбрэхта пісала: «Просты люд... заўсёды сустракае нас з дабрадушнымі і ўсмешлівымі тварамі, а ў паездках за горад у японскіх гасцініцах нас заўсёды чакае самы сардэчны прыём».

«Белавалосы консул», як называлі японцы Я. Гашкевіча, быў адзіным афіцыйным прадстаўніком Расіі ў Японіі ў той час. Яму даводзілася ездзіць да двара японскага рэгента «сёчука» для ўрэгулявання розных пытанняў.

Гашкевіч і яго супрацоўнікі заснавалі ў Хакадатэ рускую школу і бальніцу, выдалі першую рускую азбуку для маленькіх японцаў, навучалі мясцовых жыхароў марской справе і медыцыне. Гашкевіч падараваў японцам маячны ліхтар, барометр, навучыў краўца Кідзу Какіці фатаграфаванню, перадаў яму свой гарнітур, каб Кідзу Какіці навучыўся шыць еўрапейскае адзенне. Пазней Гашкевіч пісаў: «Японскі народ, нядаўна амаль сілком уціснуты ў сям'ю цывілізаванага еўрапейскага свету, даўно меў права на гэтае месца».

Ішлі гады. Я. Гашкевіч пакінуў Японію і пасяліўся ў маёнтку Малі (зараз вёска Малі знаходзіцца ў Астравецкім раёне, за 7,5 км ад чыгуначнай станцыі Гудагай і з'яўляецца цэнтрам калгаса «Чырвоны Кастрычнік»). Там ён працягваў працаваць над вывучэннем японскай мовы, а пазней склаў японска-рускі слоўнік, за які атрымаў прэмію. Памёр Я. Гашкевіч (паводле дадзеных яго сына І. Я. Гашкевіча) 5 кастрычніка 1875 г. Яго імем былі названы апісаныя ім невядомыя віды насякомых і заліў Чосанмак (Тэдзіньмань) у Карэі, ля рускай мяжы. Яго ўклад у справу збліжэння народаў Японіі і Расіі цяжка пераацаніць.

В. ГРЫЦКЕВІЧ.

---

**Калектыў Міністэрства культуры БССР выказвае спачуванне супрацоўніцы міністэрства Чучалавай Т. І. з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці бацькі.**

А. БЕЛАВУСАЎ

# ЛАНЦУГОВАЯ РЭАКЦЫЯ

Пачалося ўсё з рамонту... Наважыўся наш ЖЭК, нарэшце, адрамантаваць кватэры. Добрая справа і своечасовая, бо і падлога ўся ў шчылінах, і сцены аблупіліся, ды і яшчэ шмат што ў заняпад прыйшло.

Заходзяць, як звычайна, рамонтнікі паглядзець, што рабіць трэба. Носам круцяць, маўляў, дошак няма, фарбы няма, пліткі няма і ўвогуле пачакаць трэба.

Чакаю...

Месяц, другі... Гляджу, у суседзяў работа ідзе як след, а маю кватэру абмінаюць. Што такое? Сустрэў неяк суседа, пытаюся:

— Як, — кажу, — вам удаецца ўсё даставаць? І дошкі, і фарбу, і нават чэшскі «кампакт»?

Той смяецца:

— Дзівак-чалавек! Усё праз бутэльку! Таму бутэльку, гэтаму бутэльку —і зашуміць справа!

Прыняў я гэтую параду да ведама: Сустракаю назаўтра брыгадзіра:

— Трэба,—кажу,— пачынаць, за мной не прападзе!

— Згода,—адказвае,— дзве бутэлькі!..

І так у мяне ладна пайшло, што ні дзень—дзветры бутэлькі выстаўляю. І работа—не тое, каб «шуміць», але варушыцца. Сарвалі падлогу, сцены пракупаросілі, праводку старую знялі, ваду адключылі... Мінула два тыдні, лезу я ў шуфляду за чарговай пяцёркай — пуста! Скончыліся мае зберажэнні!

— Хлопцы,—прашу рамонтнікаў напрамілы бог,—папрацуйце ў доўг, да палучкі.

— Э, гаспадар, так справы не робяцца. Ты—нам, мы—табе!

Завярнуліся і пайшлі!

Што рабіць? Дзень думаю, другі—няма выйсця!

І як гэта ў мяне атрымалася, нават цяпер не разумею, але аднойчы заходзіць да мяне на работу кабета, даведка ёй патрэбна.

— Даведка?—пытаюся? І раптам:—Бутэльку!

Пабегла кабеціна, валачэ бутэльку!

Тут і пайшло, без бутэлькі з наведвальнікамі нават гаварыць не хачу. Што ні дзень —з работы поўную сетку дамоў нясу. Толькі тады і «зашумела» па-сапраўднаму. Рамонт за месяц скончылі. Не кватэра атрымалася, а цуд!

Але, колькі б вяровачка ні вілася, а канец будзе... Выклікае мяне начальнік. Заходжу. Ён чырвоны, бы рак. Бац кулаком па стале:

— Прызнавайся, бо я і так усё ведаю!..

Быццам варам мяне аблілі, так перапалохаўся. І з перапуду:

— Што я, дурань? Стаўце бутэльку, прызнаюся!

І што вы думаеце—паставіў! Рэфлекторна! Начальнік, ён жа таксама сярод людзей жыве!..

Міхась СКРЫПКА

## Івану ШАМЯКІНУ

З «Глыбокай плыні» ў «Добры час»
Цякуць твае «Крыніцы».
Карціць заўсёды чытачам
З тваіх крыніц напіцца.

І «Сэрца на далоні»
Раскрыта людзям насцеж.
Ты радуеш сягоння
Усіх «Трывожным шчасцем».

Ты не праходзіш міма
Падзей у нашы дні.
Таму і ў «Снежных зімах»
Так многа цеплыні.

Чытач! І ў час зацішша
«Не верце цішыні!»
Ён, пэўна, нешта піша
Пра нас, пра нашы дні.

Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ

## Рыгору БАРАДУЛІНУ

Чытач, паэце, будзе рады
Зноў перажыць тваю «Блакаду».

## Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ

Аповесць ці раман — штогод.
Няхай зайздросціць Вальтэр Скот!
І скажам, хлопцы, пры нагодзе —
Чым горш за Вальтэра Валодзя!


У рэдакцыю паступіў рукапіс...


— Ну і што з таго, што не страляе. Затое самая вялікая ў свеце.


— А калі тут порах?..


У тэатры.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

А. АЛЯКСЕЙЧЫК

## СКЛЕРОЗ

Ну, і памяць у мяне стала—як рэшата. Усё забываю на хаду.

Учора забыў замкнуць кватэру. Прыходжу позна ўвечары, бачу, нейкі грамадзянін маю нейлонавую кашулю ў свой чамадан засоўвае.

— Добры вечар,—кажу.—Дык вы—Сідараў?

— Не,—адказвае.—А што?

— Ды, бачыце, гэта кашуля Сідарава, а Сідараў —я.

Як кажуць, невялікае непаразуменне.

Сапраўды, нікуды не варта мая памяць! Забыў павіншаваць сваякоў з Новым годам, нават саміх сваякоў забываю. Што рабіць—не ведаю... Гавораць—склероз, а што гэта такое, усё забываю ў доктара спытаць.

Ага, дык пра што я?

А-а, успомніў. Выскачыў я з самалёта, лячу, а парашут—забыў. Так і пакалечыцца можна!

## МІМАХОДЗЬ

Р. БОХАН

□ Знайшлі агульную мову, калі ўжо абодва не маглі паварушыць языкамі.

□ Добра смяецца той, у каго ўсе зубы цэлыя.

□ Касцюм Евы не ўсім да твару.

□ І чаравік задзірае нос, пакуль не адрамантуюць.

□ Хуткасць электрычкі не залежыць ад энергіі пасажыраў.

□ Займаў высокае становішча... на шыі бацькоў.

□ Каханне сляпое, затое суседзі вельмі відушчыя.

Д. РОХКЕС

□ Зайшоў у гісторыю.

□ Творчы нарыў.

## ПАРФЕН І ПАРТФЕЛЬ

Рыгор ЯЎСЕЕЎ

Жыў-быў
Парфен,
А з ім—
Партфель.
Парфен—
Чыноўны,
Партфель —
Шыкоўны.
Партфель —
Пудовы.

Парфен —
Суровы.
З пагардай
Вочы —
І ўдзень,
І ўночы.
Парфен
Ледзь крочыць,
Партфель
Валочыць.
...Партфель той

Трэснуў,
Парфен —
Без крэсла.
Партфель —
На смецці.
Парфен,
Паверце,
Лагодны,
Мілы —
Бы
Падмянілі...

## Сёе-тое пра капелюшы

Г. КРУГЛОЎ

□ З пункту гледжання капелюша менавіта ён трымае ў рамках чалавечую думку.

□ Нават самую геніяльную галаву капялюш адчувае пад сабой.

□ «Маё змесціва»,—гаварыў капялюш пра галаву, якая яго насіла.

□ Пакрыўджаны капялюш запатрабаваў кнігу скаргаў, калі яму падсунулі галаву не яго памеру.

*УСМЕШКІ СУСЕДЗЯЎ*

Есіп СТРЫТАР (1836—1923)

## З ЦЫКЛА «ДРОБЯЗЬ»

63

«На бой!»—«Ці зможам, ці загінем!»
«Смялей!»—«Наперад, хто жывы!»
Народзе мой, ты водлуг гімнаў—
Герой ад пят да галавы!

74

«Колькі галоў—столькі і думак».
І кожная хоча, каб ёй была чэсць.
А ў нас яшчэ горш, бо горшы рахунак:
Галоў—пяць, а думак—шэсць.

109

Бадай, хутчэй пагладзіць
Авечку воўк на траўцы,
Чым між сабой паладзяць
Два нашы моваснаўцы.

## З ЦЫКЛА «КРАПІВА»

8

Што вораг я табе—ні ў якім разе
Не думай; чалавек я неблагі.
І хай цябе не дзівіць, дарагі:
Ты не настолькі у мяне ў павазе!

16

Залішне жонку не ганьбуй, мой браце любы,
Не забывай: жанчына—гэта божы дар,
А дараванаму каню у зубы
Ніколі не глядзіць пачцівы гаспадар.

Пераклаў са славенскай Ніл ГІЛЕВІЧ.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24 61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44 04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24 62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24 62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Індэкс 63856 АТ 01526.